ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (106) студзень 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Батлейкі "ажылі"
## ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце




Стар. 7

## У Мёрах прайшоў фестываль рэлігійнай песні "Зорка Бэтлеему"



Стар. 6

### Свидетельство молодой траппистки



Стар. 3

### Як вернікі павінны трымаць рукі падчас малітвы "Ойча наш" на Імшы?



Стар. 11

### Что почитать?

Сьюзан Форвард. "Токсичные родители"
Трудная, но крайне полезная книга...

Стр. 14

Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Папа Францішак сустрэўся ў Ватыкане з “найлепшым настаўнікам свету”



Айцец Пітэр Табічы падчас атрымання прэміі "Global teacher prize"

**Кенійскі францішканін а. Пітэр Табічы, які ў 2019 годзе быў абраны найлепшым настаўнікам у свеце, сустрэўся з Францішкам. Гэта адбылося 8 студзеня ў ватыканскай рэзідэнцыі Святога Айца.**

“Мяне вельмі натхніла вялікая пакора Папы. Падчас сустрэчы ў Доме св. Марты ў Рыме ён сказаў мне: “Маліся за мяне, браце!” Я адказаў: “Маліцеся за нас і за ўсіх настаўнікаў”, – падзяліўся каталіцкі манах у “Твітэры”.

36-гадовы а. Табічы – настаўнік матэматыкі і фізікі ў сельскай школе ў Кеніі. Спачатку ён працаваў у прэстыжнай прыватнай школе, але потым вырашыў вучыць дзяцей з бедных сем’яў. Восем гадоў таму ён стаў францішканінам і пачаў аддаваць 80% свайго заробку на дапамогу тым, хто мае патрэбу.

Намаганні законніка дазволілі яго школе стаць найлепшай на нацыянальным міжшкольным конкурсе, а 24 сакавіка 2019 г. ён стаў пераможцам Глабальнай настаўніцкай прэміі (Global Teacher Prize), цырымонія ўручэння якой прайшла ў Дубаі. Пітэр Табічы стаў першым афрыканцам, які атрымаў гэту ўзнагароду. Ён быў абраны журы ў складзе 150 чалавек сярод 10 тыс. кандыдатаў з каля 180 краін свету.

“Global Teacher Prize” была заснавана ў 2015 г. бізнэсменам індыйскага паходжання Сані Варкі – фундатарам самай буйной на Блізкім Усходзе сеткі прыватных дзіцячых садкоў і школ. Яго дабрачынны фонд уручае прэмію “найлепшаму настаўніку свету” з 2015 г. Яе пераможца атрымлівае мільён долараў ЗША.

Айцец Табічы вырашыў выдаткаваць грошы на абсталяванне для школы і дапамогу мясцовым жыхарам.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Папа встретился с послами при Святом Престоле



Встреча с дипломатическим корпусом

**Святейший Отец призвал дипломатов подражать художественному гению Рафаэля, гармонично соединявшему различные материалы и цвета.**

9 января Папа Франциск дал традиционную аудиенцию дипломатическим представителям при Святейшем Престоле по случаю наступления нового года. Обращаясь к дипломатам, Папа начал с добродетели надежды, пожелав, чтобы именно надежда воодушевляла взгляд на время, в которое мы живём. “Надежда требует реализма”, – добавил Папа Франциск, констатируя, что новый год начинается отнюдь не с обнадёживающих знаков, а, скорее, с обострения напряжённости и конфликтов. Святейший Отец особенно отметил рост напряжённости между Ираном и США, который угрожает процессу медленного восстановления Ирака, а также проблемы на Западных Балканах и на Южном Кавказе, упомянув, в частности, Грузию. К этим “замороженным конфликтам”, подчеркнул Понтифик, следует подходить в духе диалога и уважения международного права. Вместе с тем Папа назвал и ободряющие факты, например, попытки разрешить конфликт на востоке Украины и положить конец страданию местного населения.

Папа напомнил, что в завершившемся году мир отмечал тридцатилетие падения Берлинской стены, и эта годовщина заставила в очередной раз задуматься, как просто возводить барьеры. Берлинская стена – это эмблема культуры разделения, отдаляющей людей друг от друга, и она открывает путь экстремизму и насилию. “Мы все убеждаемся в этом, – добавил Папа, – видя язык ненависти, так распространённый в Интернете и средствах социальной коммуникации. Барьерам ненависти мы предпочитаем мосты примирения и солидарности, а тому, что отдаляет, – то, что сближает”, – подчеркнул Святейший Отец.

Значительную часть своей речи Папа посвятил молодежи и её воспитанию, которое требует откровенного диалога. Молодые нуждаются в слове и примере старших, но и они сами могут многое предложить, в чём мы смогли убедиться на примере тех, кто старается обратить внимание политиков на климатические изменения и на необходимость “экологического обращения”.

Говоря о молодёжи, Святейший Отец не умолчал о преступлениях, в том числе совершённых католическим духовенством, которые попирают достоинство детства и юношества, и подтвердил обязательство Святейшего Престола проливать свет на эти преступления и обеспечить защиту малолетних, также и посредством сотрудничества с гражданскими властями на местах и на международном уровне.

В заключительной части своей речи Папа напомнил о двух особенных датах, которые будут отмечаться в наступившем году. Во-первых, это пятисотлетие со дня смерти Рафаэля Санцио. “Как гениальный художник умеет гармонично соединять сырьё, цвета и различные звуки, делая их частью единого произведения искусства, дипломатия тоже призвана гармонизировать особенности разных народов и государств, созидая справедливый и мирный мир, который мы хотим созерцать как прекрасную картину”.

Вторая дата – это семидесятилетие провозглашения догмы о Взятии на небо Пресвятой Девы Марии. Пресвятая Богородица, сказал Папа, побуждает думать о признании драгоценного вклада женщин в общество, а также призывает нас расширить горизонты, устремить взгляд на завершение нашего земного пути и сосредоточиться на том дне, когда справедливость и мир будут полностью восстановлены, сказал в конце своей речи Папа Франциск.

***Ольга Сакун**, русская редакция Vatican News*

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**



# Жанчына ўпершыню на кіраўнічай пасадзе ў Дзяржсакратарыяце

**Жанчына ўпершыню прызначана намеснікам сакратара ў Дзяржсакратарыяце. Італьянка лічыць, што яе прызначэнне – знак увагі Папы Рымскага да ролі жанчын у Касцёле і ў грамадстве, але гэта не галоўная прычына.**

Папа Францішак прызначыў Франчэску Дзі Джавані намеснікам сакратара Аддзела па сувязях з дзяржавамі Дзяржаўнага сакратарыята, даручыўшы ёй кіраваць сектарам шматбаковых адносін.

Дзі Джавані нарадзілася ў 1953 годзе ў Палерма, атрымала юрыдычную адукацыю і праходзіла практыку ў міжнародным цэнтры Факаляраў. З верасня 1993 года яна была афіцыялам Аддзела па сувязях з дзяржавамі, займаючыся, у прыватнасці, пытаннямі, звязанымі з міжнароднымі дамовамі па міграцыі, міжнародным гуманітарным правам, камунікацыямі, прыватным міжнародным правам, становішчам жанчын, інтэлектуальнай уласнасцю і турызмам.

З новым прызначэннем у Аддзеле па сувязях з дзяржавамі будуць працаваць два намеснікі сакратара (падсакратары): Франчэска Дзі Джавані і мансеньёр Міраслаў Вахоўскі, які займаецца сектарам двухбаковай дыпламатыі.

У інтэрв'ю Vatican News Дзі Джавані распавяла, чым займаецца сектар шматбаковых адносін пры Аддзеле па сувязях з дзяржавамі: гаворка ідзе пра міжурадавыя арганізацыі і шматбаковыя пагадненні. Гэтаму аспекту дыпламатыі, патлумачыла яна, Папа Францішак надае вялікую ўвагу, хоць сёння эфектыўнасць працы нярэдка ставіцца пад пытанне.

Італьянка лічыць, што прызначэнне яе на такую высокую пасаду – гэта знак увагі Папы да ролі жанчын у Касцёле і ў грамадстве, аднак, у першую чаргу, гэта рашэнне, безумоўна, звязана з самой функцыяй, а не з тым фактам, што яна жанчына. У той жа час яна перакананая, што жанчыны валодаюць асаблівым дарам "шукаць агульныя падыходы і ствараць адносіны, клапоцячыся пра адзінства".

"Трэба нястомна імкнуцца да дыялогу на ўсіх узроўнях, заўсёды шукаць дыпламатычныя рашэнні. Напрыклад, у нядаўняй прамове да дыпламатычнага корпусу Папа нагадаў, сярод іншага, пра шматлікія пазітыўныя дасягненні ААН, якая адзначае сёлета 75-годдзе з дня заснавання. Мы хочам і далей бачыць у ААН неабходную прыладу дасягнення агульнага дабра, хоць гэта не вызваляе нас ад задачы патрабаваць змен і рэформаў там, дзе ёсць такая неабходнасць", – звярнула ўвагу Дзі Франчэска, кажучы пра сваю працу.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Бельгійскі святар – першы місіянер, забіты ў 2020 годзе

**83-гадовы айцец Джозэф Аландэрс, бельгійскі місіянер, які працаваў у Паўднёвай Афрыцы больш за паўстагоддзя, стаў першай ахвярай у 2020 годзе.**



Хутчэй за ўсё, місіянер быў забіты ў нядзелю пасля вяртання са святой Імшы. У панядзелак, 13 студзеня, у ягоным доме ў вёсцы Бодыбе на поўначы Паўднёвай Афрыкі паліцыя знайшла цела са звязанымі рукамі і нагамі. Пахаванне адбылося ў сераду ў саборы Клерксдорпа.

Паліцыя праводзіць расследаванне, але больш падрабязнай інфармацыі пакуль няма.

*Паводле credo.pro*

# Адзіны касцёл, які быў асвечаны ў Германіі ў 2019 годзе



**Тое, што касцёлы перабудоўваюцца або нават руйнуюцца, сёння з'яўляецца штодзённай з'явай у Германіі. Адваротны выпадак – гэта выключэнне: калі асвячаецца новы, пабудаваны касцёл.**

Нямецкі каталіцкі партал Katholisch.de папрасіў усе нямецкія дыяцэзіі даслаць яму статыстычныя дадзеныя адносна новых касцёлаў. Аказалася, што за 2019 год па ўсёй краіне быў узведзены і асвечаны толькі адзін касцёл. Ён знаходзіцца ў Верхняй Баварыі.

Мюнхенскі раён Нойперлах – класічны трабанцкі горад: высокія будынкі і жылыя блокі фарміруюць карціну, класічныя вясковыя структуры адсутнічаюць. Гэта звязана з гісторыяй маладога раёна: ён узнік у 1967 г. на раней не забудаванай тэрыторыі, каб супрацьстаяць жыллёваму дэфіцыту ў сталіцы Баварыі.

У архітэктурным плане будаўніцтва адпавядала навакольнаму асяроддзю: адкрыты бетон і вуглаватыя формы – так выглядаюць многія будынкі 1970-х гадоў. Гэта школы, гарадскія залы або касцёлы – не важна.

Інтэр'ер новага касцёла святога Якуба быў створаны ў падкрэслена строгім стылі. Будынак меў кубічныя формы, выкананы ў выглядзе высокага бетоннага прамавугольніка і пазнаецца як святыня толькі дзякуючы залатому крыжу, які выгінаецца вакол вугла будынка. Побач з ім, у абабітым дрэвам нізкім памосце, размясціліся парафіяльныя памяшканні. Касцёл прыстасаваны да ўмоваў XXI стагоддзя. Патрабаванні да энергазберажэння ў яго ніжэйшыя на дваццаць працэнтаў, будынак падключаны да цэнтральнай цеплавой сеткі, мае вентыляцыйную сістэму з рэкуперацыяй цяпла, асветлены належным чынам, а таксама мае натуральнае азеляненне на даху.

Звонку, як і ўнутры, святыня здзіўляе сваёй прастатой: у касцельнай прасторы алтаром служыць разрэзаны напалову скальны валун, у пазах, усталяваных на задняй сцяне, выяўляецца форма крыжа. Акрамя таго, ёсць толькі драўляная амбона, а таксама гістарычная фігура Марыі і пасярэбраны табэрнакулюм са старога касцёла.

На будаўніцтва гэтай святыні па сутнасці паўплывалі зменлівыя рэаліі касцельнага жыцця. Калі стары касцёл меў яшчэ некалькі сотняў месцаў для вернікаў, то ў новым для іх прадугледжана толькі пяцьдзясят.

Нядзельнай Імшы тут не будзе, для гэтага парафіянам давядзецца працягваць хадзіць у адзін з трох іншых касцёлаў гэтага раёна.

Папярэднія пяць парафій у Нойперлаху за дзесяць гадоў зліліся ў адну. Прычына, як гэта часта бывае, – памяншэнне колькасці вернікаў і ўдзельнікаў набажэнстваў. Яшчэ дваццаць гадоў таму ў архідыяцэзіі было больш за два мільёны католікаў, а сёння іх засталося крыху менш за 1,7 млн, і гэта пры агульным павелічэнні колькасці насельніцтва. Задача маленькага касцёла, адпаведна, будзе іншай, чым у яго папярэдніка. Ён павінен стаць месцам сустрэч невялікіх малітоўных груп і гуртκоў.

Хоць мюнхенская святыня з'яўляецца адзіным асвечаным за год касцёлам у Германіі, варта ўзгадаць, што часцей здараліся закрыцці касцёлаў. Сёлета было зачынена адзінаццаць, два з іх ужо знесеныя, яшчэ два запланаваныя да разбурэння. Іншыя былі прададзеныя або, напрыклад, пераабсталяваныя ў сацыяльныя аб'екты.

*Паводле Catholic.by*

# Свидетельство молодой траппистки

**Чтобы ответить на зов Бога, достаточно полностью Ему довериться.**

В преддверии праздника Сретения Господня, когда будет отмечаться также День, посвящённой Богу жизни, ватиканская газета "Оссерваторе Романо" публикует истории призваний к полной самоотдаче в монашестве, которые, благодарение Богу, не иссякают и в наши дни.

На призвание к монашеской жизни затворнического типа недавно ответила 33-летняя итальянка Мария Кьяра Пьери. Она принесла торжественные (вечные) обеты после пяти лет послушничества и распознавания в монастыре Цистерцианского ордена строгого устава – трапписток – в местечке Вальсерена. Сестра Мария Кьяра оставила позади успешную карьеру архитектора в одной из престижных студий города Варезе. Именно эта профессия и "помогла" ей принять решение посвятить жизнь Богу в монастыре.

Первый контакт с монахинями произошёл более десяти лет назад, когда Мария Кьяра ещё была студенткой Миланского технического университета. В качестве дипломной работы она выбрала проект водоснабжения для траппистского монастыря в Палестине. Именно там она впервые соприкоснулась с созерцательной жизнью, где молитва чередуется с трудом. Несколько лет спустя Божественное провидение вновь направляет ее к трапписткам: по поручению своего начальника молодой архитектор отправилась в Вальсерену для обсуждения ещё одного проекта – для Сирии.

В 2013 году Мария Кьяра решает вернуться в Вальсерену и провести там период духовных размышлений. На вопрос о том, что же всё-таки побуждает принимать решения, столь непопулярные в наше время, она отвечает: "Для этого достаточно любить Бога больше всего на свете". Монахиня убеждена, что определяющую роль в её выборе сыграли родители, которые "передавали веру жизнью, а не множеством слов". В университете она начала посещать встречи движения "Comunione e Liberazione", и слова дона Джуссани помогли ей открыть для себя красоту жизни, целиком отданной Богу. "Настоящий выбор, – поясняет Мария Кьяра, – заключался не в решении стать монахиней, а в решении довериться Богу. Я решила ответить готовностью на призыв Бога, Который указывал мне на девство как на возможность обнять всех и вся".

На вопрос о том, что она скажет девушке, которая, быть может, однажды постучится в ворота её монастыря, Мария Кьяра отвечает: "Я скажу ей заботиться лишь о том, чтобы быть готовой ко всему, не заставлять умолкнуть все волнения сердца, не бояться рискнуть всецелой самоотдачей навсегда. И ещё я бы ей сказала, что открытость к любви всегда требует жертвы, и она не допускает расчётов и оговорок".

***Ольга Сакун**, русская редакция Vatican News*

# Слуга Божы Яўгеній Кулеша

*"Слуга добры і верны,... увайдзі ў радасць гаспадара твайго"*
*(Мц 25, 21)*

**Згодна з паведамленнем айца Анджэя Пакулы, Генеральнага настаяцеля Кангрэгацыі айцоў-марыянаў, Варшаўская архідыяцэзія пачала працэс беатыфікацыі святара, які з 1938 па 1941 гг. працаваў у Друі. Гаворка ідзе пра Слугу Божага Яўгенія Кулешу MIC.**

Яўгені Кулеша нарадзіўся 8 сакавіка 1891 г. у Варшаве ў сям'і Войцеха і Францішкі Дваракоўскіх. У яго былі дзве сястры і два браты. Адзін з іх, Бранілаў, стаў святаром і служыў у Варшаўскай архідыяцэзіі (1885-1975).

Яўгеній навучаўся ў гімназіі ў Варшаве, аднак не скончыў яе, бо пачалася Першая сусветная вайна і яго сям'я была вымушана выехаць у Расію. Там Яўгеній скончыў навучанне і атрымаў дыплом. Пазней, вярнуўшыся ў Польшчу, ён распачаў навучанне ў Ягелонскім універсітэце. Спачатку вывучаў медыцыну, потым антрапалогію.

1 лістапада 1915 г. Яўгеній распачаў навіцыят Кангрэгацыі ў айцоў-марыянаў у Варшаве пад кіраўніцвам бл. Юрыя Матулевіча. Дарэчы, Кулеша быў першым, хто распачаў навіцыят у адроджанай бл. Юрыем Матулевічам Кангрэгацыі.

1 лістапада 1916 г. Яугеній Кулеша склаў першыя манаскія шлюбы і быў накіраваны на вучобу ў Фрыбург, у Швейцарыю. 2 кастрычніка 1921 года з рук ксяндза біскупа Юрыя Матулевіча ён прымае святарскае пасвячэнне ў Расне, каля Высокага Літоўскага. Пасля чаго айцец Кулеша вяртаецца ў Фрыбург, каб прадоўжыць вучобу, і 1 лістапада 1922 г. складае вечныя законныя шлюбы. Пазней вяртаецца ў Польшчу, дзе з 1926 па 1936 гг. нясе святарскую паслугу.

З 1938 года па прапанове айца Яжэмбоўскага айцец Кулеша выказаў гатоўнасць заняць пасаду дырэктара гімназіі ў Друі, а з 28 жніўня 1938 г. айцец-правінцыял прызначае айца Яўгенія таксама і настаяцелем кляштара айцоў-марыянаў у Друі. З усёй энергіяй і прафесіяналізмам айцец Яўгеній распачаў абавязкі дырэктара гімназіі ім. Караля Стэфана Баторыя ў Друі. Праз год віленскі куратар прапанаваў а. Кулешу таксама заняць і пасаду дырэктара дзяржаўнай гімназіі ў Браславе. Але пачалася вайна, і ў канцы снежня 1939 г. усе школы перайшлі пад кіраўніцтва савецкай улады.

З 1939 года айцец Яугені Кулеша цалкам прысвяціў сябе душпастырскай дзейнасці: спавядаў, праводзіў рэкалекцыі, духоўна і маральна падтрымліваў святароў і сясцёр законных, навучаў іх, як павінны захоўваць веру і вернікаў перад праследаваннямі і выклікамі таго часу. Арганізоўваў адпраўку пасылак людзям, дэпартаваным у Сібір і Казахстан.

На пачатку вайны ў Друі пачало панаваць беззаконне, адбываліся шматлікія крадзяжы з крамаў, напады і разбоі. Група жыхароў вырашыла арганізаваць камітэт грамадзянскіх правоў і прапанавала айцу Яўгенію ўначаліць яго. Спачатку ён адмаўляўся, але пасля пад настойлівым націскам жыхароў, пасля разважанняў і малітвы, згадзіўся. Была падпісана пастанова пра парадак і створана грамадзянская ахова. З таго моманту ў Друі запанавалі супакой і закон. Але менавіта гэта і вырашыла лёс айца Яўгенія.

30 чэрвеня 1941 года некалькі савецкіх салдат прыплылі па Дзвіне ў Друю. Яны прыйшлі ў кляштар і, убачыўшы айца Кулешу, арыштавалі яго і загадалі ісці за імі, пагадзіўшыся, што айца Яўгенія будуць суправаджаць ячшэ два святары. Вярнуўшыся на іншы бок Дзвіны, святароў, якія суправаджалі а. Кулешу, адправілі дадому, а арыштаванаму загадалі сесці ў машыну і павезлі ў кірунку Полацка. Па дарозе машына зламалася, і салдаты завялі айца Яўгенія ў адну з хат, дзе знаходзіўся савецкі штаб. Праз пэўны час вывелі з хаты і павялі ў кірунку жытнёвага поля.

З гэтага моманту і распачаўся яго Крыжовы шлях. Спачатку на полі салдаты пачалі біць яго, а калі святар упаў на зямлю, то пачалі біць па твары нагамі. Пазней загадалі яму ўстаць і падвялі да выкапанай на полі ямы. Спіхнуўшы ў яму, два салдаты стрэлілі айцу Яўгенію ў галаву, а трэці двойчы прабіў яму галаву штыком. Паміраючы, святар інстынктыўна падняў правую руку і прыкрыў ёю вочы. У гэтым становішчы яго і засыпалі зямлёй. Пазней, калі манахіні з Друі адкапалі цела, яны такім і ўбачылі забітага святара, з рукой на твары, якая прыкрывала вочы.

6 ліпеня 1941 г. сёстры Апалонія Петкун, Марыя Ясінская і Яніна Падольская перабраліся праз Дзвіну і даведаліся падрабязна ад жыхароў вёскі Лупанты пра мучаніцкую смерць айца Яўгенія і пра месца, дзе было закапанае яго цела. Раскапалі яму, дасталі з яе цела святара, закруцілі яго ў прасціну і на кані давезлі да Дзвіны. Шмат людзей далучылася да гэтага шэсця. Паколькі



ўсё гэта адбывалася нядзельным днём, на другім беразе ракі сабраўся шматлікі натоўп. Цела святара яны віталі плачам. Айцец Вінцэнт Смалінскі, які выйшаў, каб распачаць жалобнае набажэнства па мучаніку, замест таго, каб пачаць малітву, заплакаў. І так, з вялікім плачам цела забітага святара было ўнесена ў касцёл.

Цела айца Яўгенія апранулі ў чырвоны арнат – на знак пакутніцкай смерці. Тры дні натоўпы людзей прыходзілі, каб аддаць пашану свайму душпастыру і памаліцца каля цела мучаніка. Трэба адзначыць, што айца Яўгенія Кулешу адразу пасля смерці пачалі лічыць мучанікам. Пахаванне адбылося 8 ліпеня 1941 года пры ўдзеле 11 святароў і вялікай колькасці вернікаў. Айцец Кулеша быў пахаваны ў Друі, у мураванай магіле з левага боку ад касцёла. Шмат людзей наведвала магілу свайго пастыра, прыносіла кветкі, запальваліся знічы. Насельніцтва Друі ставілася да айца Яўгенія з павагай і любоўю, а пасля мучаніцкай смерці – з вялікай пашанай. Пазней атэістычнымі ўладамі магіла была зраўняная з зямлёй.

Без ваганняў можна сказаць, што айцец Яўгеній Кулеша аддаў сваё жыццё за веру. Яго сведчанне вернасці Богу і Святому Касцёлу бясспрэчныя! Нават сёння жыве памяць пра яго мучаніцкую смерць і шмат вернікаў чакае яго беатыфікацыі.

Будзем жа і мы з малітвай чакаць праслаўлення ў супольнасці мучанікаў Слугі Божага айца Яўгенія Кулешы, па яго прыкладзе і праз яго заступніцтва ўзмацняцца ў веры, надзеі і любові, а звяртаючыся да Езуса Хрыста, разам з апосталамі казаць: "Пане, дадай нам веры!" (Лк 17, 5).

*Падрыхтаваў*
***кс. Аляксей Ляшко,***
*паводле матэрыялаў https://padrimariani.org/ks-eugeniusz-kulesza/; https://druja1.wordpress.com/category/kosciol-duchowienstwo/page/3/*
*Фота а. Яўгенія Кулешы MIC з https://www.wikiwand.com/pl/Eugeniusz_Kulesza*



## В Эквадоре католические монахини учредили первый пункт приёма подброшенных младенцев

**В четвертом по величине городе Эквадора католические монахини учредили первый пункт приёма подброшенных младенцев – в надежде, что отчаявшиеся роженицы сохранят жизнь детям и выберут монастырский приют вместо аборта, сообщает catholicnewsagency.**

Конгрегация Сестёр Бенедиктинок-Миссионерок (Congregatio Sororum Benedictinarum-Missionariarum) открыла в Санто-Доминго пункт приёма младенцев под названием "Колыбель жизни". Приёмный бокс установлен на внешней стене детского приюта "Дом счастливой долины" (Happy Valley Home), в котором воспитываются приёмные дети и подростки "группы риска". Сёстры-бенедиктинки будут выкармливать подброшенных младенцев до трёх месяцев, в течение которых мать может вернуться и получить своего ребёнка, причём ей гарантируется дальнейшая помощь от "Дома счастливой долины". После трёх месяцев младенец регистрируется в службе усыновления.

Сестра Кармела Ева Пиларска (Carmela Ewa Pilarska), одна из монахинь-попечительниц "Дома счастливой долины", говорит, что монахини пошли на это богоугодное дело в надежде, что матери больше не будут бросать новорожденных в картонных коробках и в заброшенных домах, как это сплошь и рядом случается ныне. "Мы взываем к ним от имени многих несчастных новорождённых детей, боровшихся за жизнь и погибших, не избежавших страшной судьбы, – сказала сестра Пиларска на презентации проекта "Колыбель жизни". Внутри откидного бокса мать найдёт уютную колыбельку и письмо, гарантирующее ей, что монахини позаботятся о ребёнке с великой любовью и окажут ему медицинскую помощь. "Мы не знаем, что произошло в твоей жизни и побудило тебя принять это решение, но мы не осуждаем его" – говорится в письме.

Женщины могут безопасно и анонимно оставлять своих детей в приёмном боксе. После того, как мать оставляет ребёнка и закрывает дверцу снаружи, её уже нельзя открыть повторно. Это сделано ради защиты ребёнка от посторонних посягательств. А в доме сразу же звучит громкий сигнал, оповещающий персонал о появлении ребёнка. "После сигнала сёстры выжидают некоторое время, чтобы обеспечить анонимность матери или иного человека, оставляющего ребёнка, дать ему возможность уйти незамеченным, – поясняет сестра Пиларска, – после чего внутреннюю дверцу открывают, ребёнка принимают и немедленно оказывают ему необходимую помощь". "Каждая жизнь – это дар Божий, – подчёркивает монахиня. – Мать Тереза Калькуттская как-то сказала, что дети как звёзды, их никогда не бывает слишком много".

Проект "Колыбель для жизни" для детей-подкидышей, предлагающий матерям альтернативу абортам, следует по стопам аналогичных инициатив в США и Европе. В частности, в Германии на сегодня действует уже 99 приемных пунктов для подброшенных младенцев, в Польше их 45, в Чешской Республике 44, в Венгрии 26 и в Италии восемь. Есть такие пункты, по словам сестёр-бенедиктинок, также в Бельгии, Швейцарии, Канаде, Малайзии и Японии.

Католический орден Сестёр Бенедиктинок-Миссионерок был основан в 1917 году в Бяла-Церкве (Польша) матерью Ядвигой Хосефой Кулешой. Цель ордена заключается в помощи бедным, брошенным и бездомным детям – их было особенно много после Первой мировой войны, когда и учредили орден. В настоящее время в ордене насчитывается 280 сестёр, и они с великой любовью растят и воспитывают детей в Польше, Украине, США, Бразилии и Эквадоре.

*Седмица.Ru*

# Арцыбіскуп Габар Пінтэр: Буду неафіцыйным паслом Беларусі ў свеце

**5 снежня 2020 г. у мінскім архікатэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі св. Імшу на заканчэнне сваёй працы ў Беларусі ўзначаліў Апостальскі нунцый, арцыбіскуп Габар Пінтэр.**

Развітацца з іерархам сабраўся ўвесь склад Канферэнцыі Біскупаў, святары і сотні вернікаў. Напярэдадні ў дыпламата місія ў Гандурасе, за плячыма – больш чым тры гады служэння ў Беларусі, за якія, шчыра прызнаўся іерарх, ён удзячны Богу.

"Самае галоўнае, што хацеў сказаць: я вельмі рады, што быў тут, у Беларусі, пазнаёміўся з народам і Касцёлам. Для мяне – цуд, што Касцёл жыве і развіваецца пасля стольких доўгіх гадоў атэізму, жыве вельмі актыўна і дынамічна. Для мяне гэта таксама вопыт. Я вельмі шмат працаваў падчас гэтай місіі. Самы вялікі досвед для мяне – бачыць, як Касцёл і народ жыве. І я цяпер буду неафіцыйным паслом Беларусі: буду распавядаць аб тым, што бачыў тут", – падзяліўся думкамі арцыбіскуп Пінтэр.

Бабруйск, Іўе, Нарач, Гомель, іншыя абласныя гарады і сталіца. Ён наведаў шматлікія куткі краіны, багата сустрэч правёў у мінскай архікатэдры, удзельнічаў у беларускіх святах, прылятаючы нават у Будслаў на верталёце, сустракаўся з духавенствам, прадстаўнікамі ўлады і замежнымі гасцямі. Маліўся за Беларусь і блаславіў беларусаў. Увогуле стаў блізкім для вернікаў краіны.



А яны сёння не хвалілі свайго суму і шчыра дзякавалі за адданасць Езусу і місіі.

"Іншаземец, венгр, арцыбіскуп Габар Пінтэр хутка стаў беларусам: ён размаўляе па-беларуску, набажэнства праводзіць па-беларуску. Дзверы нунцыятуры былі адчыненыя для ўсіх, але і сэрца нунцыя было адкрыта заўсёды. Дзякуем за гэта і за працу. Ён быў тым, хто злучаў Касцёл у Беларусі са Святым Пасадам, са Святым Айцом. Сёння мы малітоўна жадаем, каб Бог блаславіў яго на новым месцы працы. Ён пакінуў свой след, і гэта важна. Мы шмат чаму навучыліся ў нунцыя, і за гэта ўдзячныя Богу. Сёння просім благаслаўлення для яго", – скіраваў словы падзякі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

Нагадаем, што Папа Францішак 12 лістапада 2019 года прызначыў арцыбіскупа Габара Пінтэра Апостальскім нунцыем у Гандурасе. Сваю місію ў Беларусі, краіне, якая застанецца не толькі ў яго біяграфіі, але і ў сэрцы, ён завершыць, калі ўвойдзе на борт самалёта ў мінскім аэрапорце.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



## Дзень нараджэння адзначыў найстарэйшы святар Беларусі

**1 студзеня, ва ўрачыстасць Святой Багародзіцы Марыі, ксёндз-прэлат Юзаф Трубовіч – найстарэйшы святар у Беларусі – адзначыў дзень нараджэння. Святар прыйшоў на свет на Віцебшчыне ў вёсцы Невярышкі ў 1926 г.**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *grodnensis.by;*
**Павел Зарэцкі**, *фота*

У дзень нараджэння ксяндза-прэлата адбылася ўрачыстая святая Імша ў гродзенскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе ён служыць з 1999 года.

На літургію сабраліся духавенства і шматлікія вернікі, каб выказаць кс. Трубовічу самыя сардэчныя віншаванні і падзякаваць за ахвярнае служэнне і прыклад сапраўднага святара, цалкам адданага Богу і людзям.

"Богу няхай будзе падзяка за ўсё дабро, якое спазнаю на працягу ўсяго свайго жыцця", – адзначыў кс. Трубовіч. Затым ён узгадаў усе тыя месцы, дзе на працягу 63 гадоў святарства служыў у Латвіі і Беларусі.

Святар дадаў, што ў сваім служэнні заўсёды кіраваўся дабром людзей, якім жадаў служыць з усяго сэрца. І, як падкрэсліў, заўсёды цешыўся, калі бачыў вернікаў, якія ўдзельнічаюць у жыцці сваёй парафіяльнай супольнасці.

Ксёндз Юзаф падзякаваў усім вернікам, якія сёння прымаюць актыўны ўдзел у жыцці сваіх парафій і такім чынам спрыяюць евангелізацыі іншых людзей і свету.

На заканчэнне Імшы, падчас якой маліліся за шаноўнага святара, самыя малодшыя парафіяне ад імя ўсіх кранальна павіншавалі кс. Юзафа.

Жадаем шаноўнаму ксяндзу-прэлату Божага благаслаўлення і патрэбных сіл на далейшыя доўгія гады служэння нашаму Касцёлу!

## Святочнае шэсце Трох Каралёў адбылося ў Лідзе



**6 студзеня, ва ўрачыстасць Аб'яўлення Пана, у парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе (Фара) адбылося першае ў Гродзенскай дыяцэзіі святочнае шэсце Трох Каралёў.**

■ **Яна Чайко**, *grodnensis.by*

Перад святой Імшой працэсію прывітаў біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Урачыста ўвайшоўшы ў касцёл пад калядны спеў, Каралі і ўдзельнікі працэсіі пакланіліся перад стаенкай.

На пачатку св. Імшы пробашч кс. канонік Уладзімір Гуляй прывітаў усіх прысутных у касцёле – вернікаў з лідскай Фары і суседніх парафій, а таксама пілігрымаў з Мінска на чале з кс. канонікам Юрыем Санько.

З гаміліяй да прысутных звярнуўся кс. Юрый. "Дзіцятка, якое нараджаецца, – Яно нараджаецца ў кожным сэрцы. Вашая прысутнасць у святыні сведчыць пра гэта. Вы, як Мудрацы, выбралі найлепшае: не "пілігрымку" на каток ці "адарацыю" перад тэлевізарам, а выбралі найважнейшае – прыйсці да Крыніцы жыцця вечнага, якая ёсць тут, пры алтары", – адзначыў ён. Святар заахвоціў усіх прысутных скласці ў дар Хрысту свае дары: "золата нашай веры, кадзіла нашых малітваў, міра нашай штодзённай працы, цярпенняў і выпрабаванняў".

На заканчэнне Літургіі да вернікаў звярнуўся біскуп Юзаф Станеўскі. Ён выказаў радасць, што шмат людзей прыйшло ў касцюмах Каралёў. "Спадзяюся, што гэта стане добрай традыцыяй у вашай парафіі. Гэта першае такое шэсце ў нас!" – сказаў іерарх і падзякаваў святарам, семінарыстам і сёстрам законным за арганізацыю гэтай урачыстасці.

Пасля пастырскага благаслаўлення адбыўся святочны канцэрт, у якім узялі ўдзел дзеці і моладзь з лідскай Фары, з лідскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Слабада) і іншыя асобы. Удзельнікі чыталі вершы і спявалі калядкі.

# Біскуп Алег Буткевіч: “Вы былі супер!”

## У Мёрах прайшоў фестываль рэлігійнай песні “Зорка Бэтлеему”

**Конкурс адбыўся ў пятніцу, 3 студзеня, у Доме культуры. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі васьмі парафій Віцебскай дыяцэзіі, адна парафія з Мінска і прадстаўніца пратэстанцкай царквы з Мёраў. Дэвізам фестывалю былі словы “Спяваем усім сэрцам!”**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

У першай частцы конкурсу выступілі парафіі Святога Андрэя Баболі з Полацка, парафіі Святой Тройцы з Глыбокага, Анжаліка Гоць, якая прадстаўляла царкву хрысціян веры евангельскай “Благадаць”з Мёраў, моладзь з Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, Злата Ярашэвіч, каторая рэпрэзентавала парафію Святога Апостала Юды Тадэвуша ў Лучаі.

Пасля невялікага перапынку, калі дзеці маглі пачаставацца печывам і гарбатай, адбылася другая частка конкурсу. Тут выступіла моладзь з Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай, Крысціна Багушэвіч – прадстаўніца парафіі Святога Міхала Арханёла ў Варапаеве, вернікі Шаркаўшчынскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа, моладзь з парафіі Святога Францішка Асізскага з вёскі Копішча (мінскі мікараён Уручча). А завяршыў конкурс выступ моладзі з Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і Святога Язафата Кунцэвіча.

Пасля гэтага ўсе ўдзельнікі накіраваліся на абед, які быў у школьнай сталоўцы, а ў журы распачалася нялёгкая праца: вызначыць лепшых. У склад журы ўваходзілі кс. Аляксандр Дулінец, Іна Сапун і Яўгенія Шук.

Пасля абеду адбылося ўручэнне дыпломаў і падарункаў.

У намінацыі “Сола да 12 гадоў” за ўдзел у фестывалі дыпломы атрымалі Анжаліка Гоць, якая прадстаўляла царкву хрысціян веры евангельскай “Благадаць” у Мёрах, і Таццяна Лаўрыновіч з Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.

III месца прысуджана Эвеліне Гірстун з Шаркаўшчынскай парафіі, II месца заняла Валерыя Лапіцкая з Мінскай парафіі Святога Францішка. А I месца журы прысудзіла Злаце Ярашэвіч з Лучайскай парафіі.

У намінацыі “Гурт да 12 гадоў” за ўдзел у фестывалі дыплом атрымаў дзіцячы калектыў з Мёрскай парафіі. III месца заняў гурт “Зорачкі” з Браслаўскай парафіі, II месца атрымаў гурт “Транзітус” са сталічнай парафіі Святога Францішка. I месца заняў гурт “Анёлкі” з Браслаўскай парафіі.

У намінацыі “Сола 12+” дыплом за I месца атрымала Крысціна Багушэвіч з Варапаеўскай парафіі.

У намінацыі “Гурт 12+” дыпломы за ўдзел у фестывалі атрымалі прадстаўнікі Верхнядзвінскай парафіі і гурт “Восьмая нота” з Полацка.

III месца падзялілі дзіцячы хор з Мёрскай парафіі і гурт “Музыкі Хрыста” з Шаркаўшчыны. Два II месцы журы прысудзіла хору моладзі і гурту “Папуры” з Мёрскай парафіі. А I месца заняў моладзевы гурт “Sperantes in Domino” з парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.

– Ах, як было прыгожа! – такімі словамі распачаў свой выступ біскуп Алег Буткевіч пасля ўручэння дыпломаў і падарункаў. Ён адзначыў, што “найцяжэй было журы. Я спачуваю гэтым людзям, бо не так проста вылучыць сярод такой колькасці выступоўцаў высокага ўзроўню некага найлепшага. Але незалежна ад гэтага памятайце, што ўсе вы былі супер!”

Іерарх падзякаваў усім спонсарам, асабліва дыяцэзіяльнаму “Caritas”, а таксама пробашчу кс. Андрэю Куліку і ўсім святарам і сёстрам, якія рыхтавалі моладзь да гэтага конкурсу. Падзяку ад іерарха атрымалі і супрацоўнікі Дома культуры, кухары са сталовай, а таксама ўсе ўдзельнікі.

Потым да прысутных звярнуўся кс. Андрэй Кулік:

– Гэта мой першы фестываль “Зорка Бэтлеему” ў якасці гаспадара імпрэзы. Дзякуй усім, хто адгукнуўся на запрашэнне. Асобная падзяка парафіі айцоўкапуцынаў з Мінска, бо гэта самая далёкая парафія, якая да нас прыехала. Спадзяюся, што вы станеце пастаяннымі гасцямі ў Мёрах на “Зорцы Бэтлеему”.

Пробашч таксама падзякаваў усім, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі гэтага мерапрыемства, і запрасіў праз год зноў у Мёры.

А напрыканцы ўсе ўдзельнікі падняліся на сцэну і разам выканалі калядную песню.






## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ганна Малюжанец** *(Параф'янава)*, **Яніна Мядзелец** *(Жукі Ложныя)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Рамуальда Суднік** *(Струкі)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **“Маці ў малітвы”** *(Відзы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Марына Рабецкая** *(Крэва)*, **Людміла Позняк** *(Прусы)*, **Міхаіл Суднік** *(Струкі)*, **Хвайніцкая Т.І.** *(Руткевічы)*, **Сурвіла В.Р.** *(Шэметава)*, **Юзаф Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Вера Шыкшнян** *(Гірэйшы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Алена Куцко** *(Ліда)*, **Даната Голубева** *(Бабінавічы)*, **Эвеліна Богуш** *(Пераслега)*, **Бэнедзікта Баранава** *(Двор-Пліна)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Алена Махальская** *(Падсвілле)*, **Марыя Шук** *(Лявонпаль)*, **Марыя Круковіч** *(Юркаўшчына)*, **Леакадзія Кавалёнак** *(Прусы)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Марыя Кавалеўская** *(Докшыцы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Алена Сліжэўская** *(Буйкі)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Валянціна Падгайская** *(Паставы)*, **Кацярына Цатэвіч** *(Дзераўная)*, **Віктар Шчановіч** *(Паставы)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Леакадзія Шырэй** *(Навасёлкі)*, **Эмілія Ермаловіч** *(Віцебск)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Марыя Вансовіч** *(Паставы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Маруньво Н.Н.** *(Навалукомль)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Навалукомль)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Сурвіла В.А.** *(Шэметава)*, **Ізабэла-Браніслава Гіржда** *(Пацэва)*, **Бэнедзікта Баранава** *(Двор-Пліна)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Іван Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі)*, **Козел З.Ю.** *(Докшыцы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Батлейкі “ажылі” ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце

**8 студзеня конкурс дыяцэзіяльных батлеек прайшоў упершыню ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П.М. Машэрава.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст і фота*

Вядоўцам мерапрыемства быў кс. Алег Зямчонак. Ён і прадставіў гледачам і ўдзельнікам склад журы: а. Міхаіл Ермашкевіч OP – пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Сянне, Крысціна Бондарава – кіраўнік клуба культурна-гістарычнай рэканструкцыі “Паўночная вежа”, а. Кляменцій Верт SJ – мадэратар і эканом Віцебскай курыі.

На пачатку конкурсных праглядаў прысутных прывітаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Ён пажадаў удзельнікам і гледачам творчых поспехаў і прыемных уражанняў. Пасля гэтага ўсе разам памаліліся “Ойча наш”.

Удзел у конкурсе прынялі дзіцячыя калектывы з васьмі парафій дыяцэзіі: Езуса Міласэрнага і Святога Антонія ў Віцебску, з Наваполацка, Лынтупаў, Параф’янава, Докшыц, Браслава і Друі.

**Вынікі:**

1 месца – Браслаў;
2 месца – парафія Святога Антонія, Віцебск;
3 месца – Наваполацк.

Таксама журы адзначыла артыстызм Дар’і з Докшыц і Максіма з Браслава, музычныя і танцавальныя нумары дзяцей з Друі, Докшыц і Параф’янава.

Трэба сказаць, што і іншыя дзеці не засталіся па-за ўвагай – яны таксама атрымалі дыпломы і падарункі. Цукеркамі ласаваліся і тыя дзеці, якія прысутнічалі ў якасці гледачоў.

Біскуп Алег выказаў вялікую падзяку віцебскаму дыяцэзіяльнаму Caritas і яго кіраўніку ксяндзу Андрэю Аніскевічу за фінансавую падтрымку і падрыхтаваныя падарункі.










## Цуд у Пуэрта-Рыка: касцёл знішчаны, табернакулюм некрануты

**Вернікі ўзялі табернакулюм і прайшлі працэсіяй па абломках, прычынай якіх стаў землятрус. Затым яны схавалі табернакулюм на плябаніі, каб захоўваць Найсвяцейшы Сакрамант з належнай пашанай.**

Пуэрта-Рыка яшчэ не аднавіўся пасля разбуральнага ўрагану, ад якога пацярпеў у 2017 годзе, і ўжо чарговы катаклізм спусташае гэтую бедную краіну.

За апошнія два тыдні востраў пацярпеў каля 1000 землятрусаў, у выніку якіх загінуў адзін чалавек і больш за 800 дамоў былі разбураны.

Адзін з землятрусаў адбыўся 7 студзеня і меў моц 6,4 па шкале Рыхтэра. Прайшло некалькі хвілін, але гэтага было дастаткова, каб ператварыць шматлікія дамы ў смецце, у тым ліку касцёл Беззаганнага Зачацця НПМ у Гуаяніле. Як распавядае ксёндз, які працуе ў гэтай парафіі, пасля яго прыбыцця на месца ён убачыў замест свайго касцёла груду смецця і “цалкам непашкоджаны табернакулюм, які знаходзіўся на краі алтара”.

Па дадзеных мясцовых СМІ, “ранішні штуршок землятрусу разбурыў капліцу, у выніку чаго алтар нахіліўся наперад. Аднак, табернакулюм амаль вісеў у паветры, толькі крыху абапіраўся на алтар”.

*Пераклад з aleteia.pl*




**Касцёл разбураны, табернакулюм некрануты.**




# Фестываль хрысціянскай музыкі “Дастукацца да нябёсаў” пройдзе ў Баранавічах 8 лютага

**IX Фестываль хрысціянскай музыкі “Дастукацца да нябёсаў” (#DDN20) пройдзе ў Баранавічах 8 лютага. Месца правядзення традыцыйнае – ДКТ (ДК “Тэкстыльшчык”) па вул. Кірава, 62. Пачатак канцэрту – а 18:00.**

Фестываль ладзіць кс. Павел Рудзьман, душпастыр моладзі Пінскай дыяцэзіі, і яго каманда.

– ДДН – фестываль, які запальвае сэрцы мнгіх людзей і дорыць станоўчыя эмоцыі. Гэта шчаслівыя вочы і яркія ўспаміны, гэта малітва і праслаўленне, – гавораць арганізатары. – ДДН чакаюць сотні маладых хрысціян з розных куткоў Беларусі.

Арганізатары прапануюць кожнаму стаць часткай каманды і паслужыць не толькі прысутнасцю на фестывалі, але і дзеяннем. У камандзе ёсць вакантныя месцы куратара музычнай групы, відэа-апаратара, SMM-шчыка, капірайтэра, інтэрв’юера, прамоўтэра.

Усіх, хто можа прапанаваць гэтую і любую іншую дапамогу, просяць перайсці па спасылцы ў апісанні профілю @ddn.fest ў Instagram.

*Katolik.life*

# Дабрачынныя калядныя акцыі прайшлі ў Віцебску

**У інтэграцыйнай святліцы пры катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску прайшлі калядныя мерапрыемствы, якія арганізавала ДКТ “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі.**

9 студзеня адбылася калядная вечарына для ўдзельнікаў “Клуба для людзей з інваліднасцю пры “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі. 10 студзеня прайшла калядная сустрэча для дзяцей-сірот, дзяцей са шматдзетных сем’яў і тых, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Разам са студыяй “Імпэт” і “Арт-студыяй Юрыя Галёнава” гэтыя імпрэзы сталі сапраўды цікавымі і незабыўнымі для ўдзельнікаў.

*Паводле матэрыялаў caritas-vitebsk.by*



## Расклад рэкалекцый і курсаў у Оршы на зіму і вясну

**Рэкалекцыйны дом святога Юзафа ў Оршы запрашае на курсы і рэкалекцыі, якія могуць дапамагчы чалавеку ў рэалізацыі яго хрысціянскага паклікання, у паглыбленні адносінаў з Богам.**

Вельмі раім выкарыстаць такую магчымасць і прапануем расклад на зіму і вясну 2020 года.

**8 лютага** – “Вінаграднік”;
**28 лютага – 1 сакавіка** – “Назарэт” – курс самастойнай працы з Божым словам;
**14 сакавіка** – “Вінаграднік”;
**31 сакавіка – 2 красавіка** – “Закхей” – курс для школьнай моладзі ад 14 гадоў;
**14–19 красавіка** – “Эмаус” – Біблійны курс;
**25 красавіка** – “Вінаграднік”;
**8–10 мая** – “Назарэт” – курс самастойнай працы з Божым словам;
**30 мая** – “Вінаграднік”.

Запісы абавязковыя.

Па ўсіх дадатковых пытаннях можна звяртацца: +37529 7130233 – а. Аляксандр Жарнасек МІС. Больш інфармацыі можна знайсці на сайце viartannie.org.

**Адрас:** г. Орша, вул. Савецкая, 6.

# Рэкалекцыі “Сужэнскіх сустрэч” для сем’яў па ўнікальнай аўтарскай праграме пройдуць у Мінску

**Сужэнцы запрашаюцца скарыстацца адной з гэтых магчымасцяў для сваёй сям’і, каб умацаваць і паглыбіць свае сужэнскія адносіны. Да восені падобных мерапрыемстваў у Мінску больш не будзе.**




Падчас рэкалекцый удзельнікі атрымаюць рэальны інструмент для будавання сваіх адносін, якім змогуць карыстацца ў штодзённасці, нават у тых сітуацыях, якія сёння здаюцца вельмі цяжкімі і амаль не пакідаюць надзеі.

Запрашаюцца таксама тыя, хто хоча ўнесці ў свае адносіны новае дыханне, свежасць, аднавіць цеплыню і еднасць. Маладыя сем’і змогуць закласці моцны падмурак для сваіх адносін і паглыбіць узаемаразуменне.

**Некалькі водгукаў ад удзельнікаў мінулых рэкалекцый, што могуць крыху раскрыць пачуцці, з якімі сем’і вяртаюцца дадому:**

“Адчуваю цяпло ўнутры сябе, стаў бліжэй да сваёй жонкі. Час ідзе, побыт, дзеці – і паступова забываеш, навошта ты наогул з гэтым чалавекам. У галаве толькі праблемы. Рэкалекцыі дапамаглі ўспомніць лёгкасць і адкрытасць адно перад адным. Перад алтаром здавалася, што быць сям’ёй проста, але адносіны – гэта праца... Зараз ганаруся сваёй жонкай, сабой і нашымі намаганнямі”.

“Адчуваем пачуцці спакою, задавальнення, шчырасці. Вяртаемся з добрымі думкамі, дасталі знутры сваю любоў, і адносіны стануць лепшымі”.

“Перажыў тут пачуцці, падобныя да тых, што адчуваў у самыя значныя моманты майго жыцця: як пры шлюбе, нараджэнні дзіцяці і г.д... Пачуццё вялікага адзінства з жонкай. Вяртаюся з цвёрдым намерам змяняць сваё жыццё”.

“З’явілася пачуццё надзеі. Ведаем, у якім кірунку рухацца. Рэкалекцыі дапамаглі мне паглядзець на мяне самую і маё праўдзівае стаўленне да мужа. Убачыла сябе ў праўдзе. З’явілася жаданне змяняцца самой, а не пастаянна змяняць іншых”.

“Маем траіх дзяцей, зусім забыліся пра сябе, тым больш пра свае пачуцці. Цяпер я нарэшце зразумела, чаго нам так не хапала. Ад’язджаю з упэўненасцю, натхненнем, з надзеяй на перамены”.

“Паміж сабой з’явілася адкрытасць і блізкасць, магчымасць шчыра гаварыць. Дадому ад’язджаем з прыемным багажом, з усведамленнем неабходнасці і далей працаваць над адносінамі, будуючы наш сужэнскі дыялог”.

**На якія пытанні дапамагаюць адказаць рэкалекцыі “Сужэнскіх сустрэч”?**

Трацiце цеплыню адносін? Не ведаеце, куды схавалася каханне? Прыемныя словы? Узаемная падтрымка? Марыце пра глыбокае ўзаемаразуменне і шчаслівую штодзённасць? Крызіс сужэнскага жыцця? Толькі стварылі сям’ю і хочаце будаваць яе на моцным падмурку? Хочаце паглыбіць сваю любоў? Сужэнскія рэкалекцыі – выдатная пляцоўка для адказу на ўсе гэтыя пытанні.

Кожны з нас сапраўды марыць пра шчаслівае сужэнства як у момант яго стварэння, так і пасля 1...5...10...20...25...50...гадоў сужэнскага жыцця. Так і мае быць! Бо кожная наша сям’я нарадзілася, каб быць шчаслівай!

Але што мы робім для нашага сямейнага шчасця? Ці ведаем інструменты для паглыблення сваіх сужэнскіх адносін? Ці клапоцімся і ці ўмацоўваем адно аднаго? Ці маем сілы прабачыць і ісці далей? І такіх пытанняў можна паставіць вельмі шмат. Запрашаем сем’і пашукаць адказы і выкарыстаць гэты час на ўмацаванне сваіх сужэнскіх адносін.

У рэкалекцыях абавязковы ўдзел абаіх сужэнцаў, без дзяцей і ва ўсёй праграме.

Запрашаюцца ўсе, хто гатовы працаваць над сваімі сужэнскімі адносінамі незалежна ад узросту, канфесійнай прыналежнасці і рэлігійнай актыўнасці: і тыя, што толькі распісаліся ў ЗАГСе, і тыя, хто жыве ў шлюбе.

**Час правядзення рэкалекцый:**

**У лютым:** пачатак 14 лютага а 18.00, заканчэнне – 16 лютага каля 15.00.

**У сакавіку:** 20 сакавіка а 18.00, заканчэнне – 22 сакавіка каля 15.00.

**Адрас:** в. Ляскоўка, цэнтр “Карытас” (каля Бараўлянаў).

Усім неабходным удзельнікі будуць забяспечаны (асабісты нумар з санвузлом, трохразовае харчаванне, кава-паўзы).

**Папярэдні запіс абавязковы. Колькасць месцаў абмежаваная.**

Адзіны нумар для запісу і дадатковай інфармацыі: **+375 29 652 11 44** A1 (Velcom)

*Catholic.by*



**Фіналісты I Дыяцэзіяльнага конкурса на веданне Святога Пісання. Віцебск, 2019 год**

# Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання распачнецца ў сакавіку

**Паважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры ў Хрысце! Дарагія дзеці!**
**Запрашаем Вас прыняць удзел у II Дыяцэзіяльным конкурсе на веданне Святога Пісання!**

У мінулым годзе такі конкурс адбыўся першы раз, у ім прыняло ўдзел 220 самых смелых дзяцей з 26 парафій Віцебскай дыяцэзіі. Супольная падрыхтоўка да конкурса аб'яднала 20 катэхетаў, у арганізацыю мясцовых этапаў актыўна ўключаліся святары і сёстры. Спадзяёмся, што сёлета конкурс будзе яшчэ больш цікавым і карысным!

У конкурсе могуць прымаць удзел дзеці з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі ў дзвюх узроставых катэгорыях: **1 катэгорыя – дзеці ад 9 да 11 гадоў уключна (могуць быць маладзейшыя); 2 катэгорыя – дзеці ад 12 да 14 гадоў уключна.**

На дыяцэзіяльнай сустрэчы катэхетаў у Глыбокім разам з біскупам Алегам Буткевічам было вырашана, што **першы парафіяльны этап конкурсу адбудзецца 7 сакавіка 2020 года. Дэканальны этап запланаваны на 21 сакавіка, а фінал – на 25 красавіка** (увага – змена даты).

Асновай конкурсных матэрыялаў з'яўляецца змест **кнігі Зыходу Старога Запавету** (любое кананічнае выданне).

Дзеці, якія жадаюць прыняць удзел у конкурсе, павінны ў найбліжэйшы час звярнуцца да сваіх катэхетаў або пробашчаў.

**Для ўдзелу** ў конкурсе парафіі неабходна даслаць арганізатарам па электроннай пошце запоўнены фармуляр для запісу з дадзенымі ўдзельнікаў **да 16 лютага** уключна.

**Арганізатарам** Дыяцэзіяльнага конкурсу біблійных ведаў з'яўляецца Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь. Дыяцэзіяльны каардынатар – с. Дар'я Галубкова OV.

Усе пытанні можна накіроўваць на паштовую скрыню ***vitebsk.caritas@gmail.com*** або па тэлефоне: **+375298150906.**

**Адкрыем разам моц і прыгажосць Божага Слова!**



# Святыя сакраманты – дзейсныя знакі Божай любові

**Катэхізіс Каталіцкага Касцёла падае, што сакраманты — гэта дзейсныя знакі ласкі, устаноўленыя Хрыстом і даручаныя Касцёлу, праз якія нам удзяляецца Божае жыццё (ККК 1131). Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе Вам прыпомніць сабе занятки па рэлігіі і праверыць свае веды на гэтую тэму.**



1 Колькі існуе святых сакрамантаў у Каталіцкім Касцёле?



**А.** 5
**Б.** 7
**В.** 8

2 Хто можа быць ахрышчаны?



**А.** Толькі дзіця
**Б.** Толькі дарослы
**В.** Кожны, хто яшчэ не быў ахрышчаны

3 Што з пералічанага не з'яўляецца сакрамантам?



**А.** Бежмаванне
**Б.** Намашчэнне хворых
**В.** Пахаванне

4 Якія з сакрамантаў з'яўляюцца сакрамантамі хрысціянскага ўтаямнічання?



**А.** Хрост, бежмаванне, Эўхарыстыя
**Б.** Хрост, сакрамант пакаяння і паяднання, Эўхарыстыя
**В.** Хрост, Эўхарыстыя, святарства

5 Які з пералічаных сакрамантаў можна прыняць у жыцці толькі раз?



**А.** Сакрамант Пакаяння і паяднання
**Б.** Эўхарыстыя
**В.** Святарства

6 Калі святар адсутнічае, Імшу можа адпраўляць:



**А.** Акаліт
**Б.** Дыякан
**В.** Ніхто, акрамя святара

7 Месца, дзе павінен адбывацца сакрамант пакаяння і паяднання:



**А.** Закрыстыя
**Б.** Канфесіянал
**В.** Плябанія

8 Колькі разоў можна прыняць сакрамант Бежмавання?



**А.** Адзін
**Б.** Два
**В.** Неабмежаваная колькасць разоў

9 Істотнымі элементамі сужэнства з'яўляюцца:



**А.** Вера, надзея, любоў
**Б.** Любоў, багацце, дабрабыт
**В.** Адзінства, неразрыўнасць, сакрамантальнасць

10 Хто можа ўдзяляць сакрамант намашчэння хворых?



**А.** Дыякан, святар
**Б.** Кожны вернік, калі хворы знаходзіцца ў небяспецы смерці
**В.** Толькі святар

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Каляндар на люты



**2 лютага – свята Ахвяравання Пана**

У гэты дзень падчас Літургіі ўзгадваецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання, прадпісанага законамі Старога Запавету. Такім чынам, ужо ў самым пачатку зямнога жыцця Збаўцы Бог сведчыць, што Езус прыйшоў у свет не парушыць закон, а выканаць яго. Калі Марыя з Юзафам прынеслі Дзіцятка Езуса ў святыню, Месія ўпершыню сустракаецца са сваім народам. Згодна з апавяданнем евангелістаў, першымі людзьмі, якія сустрэлі Пана, пазнаўшы ў маленькім Дзіцятку самога Хрыста, былі прарок Сімяон і старая ўдава па імені Ганна, якая няспынна знаходзілася ў святыні.

На пачатку святой Імшы ў гэты дзень адбываюцца працэсіі са свечкамі, падчас якіх спяваецца песня Сімяона: "Цяпер па слову Твайму, Пане, адпускаеш слугу Твайго ў супакоі. Бо вочы мае ўбачылі Тваё збаўленне, якое Ты падрыхтаваў перад абліччам усіх народаў. Святло на асвятленне паганаў і славу народа Твайго, Ізраэля".

Іншая назва – свята Маці Божай Грамнічнай. Грамнічная свечка таксама сімвалізуе Марыю – пакорную слугу Пана Бога, у душы Якой гарэла святло веры, надзеі і любові. Свечкі, што асвячаюць у гэты дзень, называюць "грамнічнымі", бо іх запальваюць у час навальніцаў, каб апека Маці Божай выратавала ад небяспекі стыхіі. Запаленую грамнічную свечку такcама даюць у рукі чалавеку пры адыходзе з гэтага свету, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3 лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка**



Святы Блажэй з'яўляецца апекуном пры хваробах горла. Адна з легендаў гаворыць, як аднойчы маленькі хлопчык падавіўся косткаю, што засела ў горле і стала прычынаю моцнага ацёку. Хлопчыку пагражала ўдушэнне. Тады біскуп са спачуваннем дакрануўся да шыі хлопчыка і зрабіў над ім знак крыжа. І раптам малы пачаў роўна дыхаць, ацёк зменшыўся, а потым зусім знік. Вестка пра незвычайнага лекара хутка разляцелася па ваколіцы, што было вельмі нязручна для рымскіх уладаў. Адразу просьбамі, а потым катаваннем яны імкнуліся прымусіць біскупа адмовіцца ад Хрыста, але святы Блажэй не адмовіўся. Ён быў забіты мечам прыкладна ў 316 годзе. У дзень яго літургічнага ўспаміну асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". У час благаслаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усялякіх хваробаў горла і ад усялякага зла".

**5 лютага – успамін святой Агаты, панны і мучаніцы**



Яна была дзяўчынай, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, вытрымала знявагу публічным домам, турмой і катаваннямі, у тым ліку разарванне і адразанне грудзей. Яе падтрымлівалі малітвы і бачанні Святога Пятра. Святая Агата прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося выбывяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. У дзень успаміну св. Агаты благаслаўляюцца хлеб і вада. У малітве асвячэння прыпамінаецца, што св. Агата з'яўляецца асаблівай заступніцай і апякункай ў небяспецы пажару.

**8 лютага – успамін св. Жазэфіны Бакіты, панны**



Святая нарадзілася каля 1870 г. у Судане (Афрыка). Калі Жазэфіне было сем гадоў, арабскія гандляры выкралі яе з роднага дому і прадалі ў рабства. Ад перанесенага шоку дзяўчынка забылася сваё імя. Выкрадальнікі называлі яе "Бакіта", што па-арабску азначае "Шчаслівіца". Бакіта з дзяцінства павінна была цяжка працаваць, пакутуючы цялесна і духоўна. Пазней дзяўчынку прадалі італьянскаму консулу і дзякуючы гэтаму яна атрымала свабоду. У Венецыі Бакіта ўступіла ў законную супольнасць Сясцёр Міласэрнасці. Праз чорны колер скуры, нават ужо будучы законніцай, цярпела ад дыскрымінацыі. Святая Жазэфіна любіла паўтараць: "Будзьце добрымі, любіце Госпада, маліцеся за тых, хто не ведае Яго". Жазэфіна Бакіта памерла 8 лютага 1947 г. у Італіі. Павел Ян Павел II беатыфікаваў яе, а ў 2000 г. кананізаваў.

**11 лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда**



У гэты дзень Каталіцкі Касцёл успамінае Маці Божую Люрдскую і адначасова адзначае чарговы Сусветны дзень хворых, устаноўлены св. Янам Паўлам II у 1992 г. у 75-ю гадавіну фацімскага аб'яўлення і ў 11-ю гадавіну замаху на жыццё самога Святога Айца.

Менавіта ў гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых.

**14 лютага – успамін св. Кірыла, манаха, і Мяфодзія, біскупа, апекуноў Еўропы**

Браты Кірыл і Мяфодзій, легендарныя стваральнікі кірыліцы, нарадзіліся ў Грэцыі ў сям'і ваеннага. Яны жылі ў грэцкім горадзе Салуні. Кірыл з малых гадоў праяўляў вялікія здольнасці: дасканала ведаў усе навукі свайго часу, вывучыў шматлікія мовы. Не адставаў ад яго і Мяфодзій. Браты выхоўваліся ў набожнай сям'і. І гэта паўплывала на тое, што яны ў рэшце рэшт сталі манахамі.

Славянскую азбуку Кірыл і Мяфодзій стварылі на аснове грэка-візантыйскага ўстаўнага пісьма. На думку даследчыкаў, адбылося гэта ў другой палове IX стагоддзя. Новы алфавіт атрымаў назву "кірыліца" – ад імя аднаго з братоў.

Папа Адрыян II упершыню зацвердзіў літургію на славянскай мове. 14 лютага 869 г. у Рыме памёр Кірыл. Ён быў пахаваны ў базыліцы св. Клімента, дзе яго цела спачывае і цяпер. Старэйшага брата, Мяфодзія, Папа пасвяціў на арцыбіскупа Маравіі і Паноніі (сучасная Венгрыя), дзе ён нястомна працягваў абвяшчаць Евангелле. Яго дзейнасці, што дасягала нават польскіх земляў, моцна перашкаджалі нямецкія біскупы, якія былі супраць славянскай літургіі і нават на працягу двух з паловаю гадоў трымалі святога пад арыштам. Вызваліў Мяфодзія Папа Ян VIII, які зацвердзіў яго на ранейшых пасадах і даў дазвол карыстацца славянскай моваю ў літургіі.

Мяфодзій памёр 6 красавіка 885 г., хутчэй за ўсё, у Велеградзе, у Маравіі. Пасля яго смерці літургія на славянскай мове зноў была забароненая. За вялікія заслугі ў абвяшчэнні хрысціянскай веры сярод славянскага насельніцтва святых Кірыла і Мяфодзія называюць "Апосталамі славянаў". Святы Айцец Ян Павел II абвясціў святых Кірыла і Мяфодзія апекунамі Еўропы, прыпамінаючы, што кантыненту, каб развівацца гарманічна, патрэбна "дыхаць двума лёгкімі – усходнім і заходнім".

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***




## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны ў наступных святароў:

**10 лютага** – дзень нараджэння адзначае кс. Аляксей Асон (Новы Пагост);

**17 лютага** – імяніны адзначае кс. Аляксей Асон (Новы Пагост);

**18 лютага** – дзень нараджэння адзначае кс. Вадзім Прасяной SCJ (Паставы);

**26 лютага** – імяніны адзначае біскуп Віцебскі Алег Буткевіч;

**28 лютага** – імяніны адзначае кс. Раман Мурзіч (Параф'янава).

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

# Трудные вопросы: освобождение от тайны исповеди

**Должен ли кающийся соблюдать тайну исповеди? Может ли он освободить исповедника от сохранения тайны исповеди и в каких случаях?**

Тайна исповеди относится к Божественному, а не к человеческому порядку, и во время исповеди священник получает сведения не как человек, а как служитель Бога. Как утверждал святой Фома Аквинский в "Сумме теологии", "священник узнаёт о грехах не как человек, но как Бог". Поэтому даже если священник предстает перед судом или получает приказ от вышестоящего церковного начальства, он не может нарушить тайну исповеди. По этой причине, пишет святой Фома, священник может даже заявить под присягой, "что он не обладает сведениями, которые известны ему как Богу" ("Сумма теологии", приложение 11,1.3).

Кающийся в исповеди не является служителем Бога, поэтому он не связан тайной исповеди так же, как священник. Однако с тайной, относящейся к Божественному порядку, связана и тайна человеческая: поскольку кающийся знает, что священник не откроет сказанного во время Таинства, он также в определённой мере должен тоже хранить тайну священника. "В определённой мере" означает, что если он расскажет, например, о добром совете, который священник дал ему на исповеди, то он не нарушит никакой тайны. Но следует воздерживаться от того, что может представить священника в отрицательном свете, ведь священник, связанный тайной Божественного порядка, не может защититься.

Приведём здесь выдержку из обращения святого Иоанна Павла II 12 марта 1994 года к представителям Апостольской пенитенциарии: "Священнику, который принимает таинственные исповеди, запрещено, без каких-либо исключений, раскрывать личность кающегося и его грехи… Эта всецелая конфиденциальность направлена непосредственно на благо кающегося. Таким образом, последний не совершает греха и не подвергается каноническому наказанию, если спонтанно и без нанесения ущерба третьим лицам открывает за пределами исповеди то, в чём он каялся. Но очевидно, что, по меньшей мере по долгу справедливости и, я бы сказал, из чувства благородства по отношению к исповедующему священнику он, в свою очередь, должен хранить молчание о том, что священник, доверяя его сдержанности, открывает ему во время таинственной исповеди. В этом смысле мой долг – напомнить и подтвердить то, что было установлено посредством декрета Конгрегации вероучения с целью воспрепятствовать оскорблению священного характера исповеди с помощью средств социальной коммуникации".

Тайна исповеди означает не просто "хранить секрет", чтобы не нарушать конфиденциальность, как это происходит в случае врачебной или адвокатской тайны. Тайна исповеди имеет другие причины и относится к сверхъестественной сфере. Она остаётся незыблемой даже в том случае, если кающийся разрешит исповеднику открыть то, что ему было открыто во время Таинства.

Причина тайны исповеди заключается, как мы уже говорили, в том, что исповедник осведомлён о грехах не как человек, а как Бог. Если его спросят о содержании исповеданных грехов, он должен ответить, что ничего об этом не знает. В то время как любые другие сведения он получает как человек, здесь он выступает в качестве служителя Бога, более того, действует in persona Christi, отождествляясь с Христом Богом.

Тайна исповеди объясняется самой природой Таинства Примирения и поэтому относится к Божественному, а не человеческому порядку. Какой бы ни была угроза, даже если сам Папа Римский пригрозит священнику отлучением, если он не откроет сказанного на исповеди, – исповедник должен хранить молчание.

Тайна исповеди имеет священный характер. Молчание исповедника – это священный знак поведения Самого Бога, Которому он служит. И так же, как Бог забывает о грехах, в которых кается человек, о них должен забыть священник. Таинственный смысл исповеди заключается в том, что Бог "покрывает" грехи человека. Эти грехи отныне покрыты тайной.

Таким образом, исповедник не может нарушить тайну исповеди даже если кающийся сам разрешит ему или даже попросит.

*Русская редакция Vatican News*




# Як вернікі павінны трымаць рукі падчас малітвы "Ойча наш" на Імшы?

## Каментар арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча

**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, які таксама ўзначальвае ў епіскапаце камісію Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў, тлумачыць, якую паставу належыць прымаць вернікам падчас малітвы "Ойча наш" на святой Імшы.**

16 студзеня на рускамоўным партале Dominus.by (гэты праект рэалізуе група каталіцкіх энтузіястаў з Мінска) з'явіўся матэрыял адносна недапушчальнасці таго, каб свецкія вернікі на святой Імшы падчас малітвы "Ойча наш" трымалі рукі, узняўшы іх у "жэсце Аранты".

Паколькі матэрыял выклікаў шырокі рэзананс і шмат супярэчлівых меркаванняў у каментарах, Catholic.by звярнуўся з просьбай пра кампетэнтнае тлумачэнне на гэтую тэму да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які не толькі ўзначальвае беларускі каталіцкі епіскапат, але і адказвае ў ім за пытанні, звязаныя з Божым культам і літургіяй Касцёла.

– Да мяне ўжо неаднойчы звярталіся з падобным пытаннем, хоць, на першы погляд, тут не павінна ўзнікаць непаразуменняў, – сказаў іерарх.

– Жэсты і паставы цела ўдзельнікаў Эўхарысты апісаны ў галоўнай літургічнай кнізе Касцёла "Рымскім Імшале". У агульных уводзінах да "Рымскага Імшала" сказана, што цэлебрацыя Імшы – гэта дзеянне Хрыста і іерархічна ўпарадкаванага Божага народа, таму важна так яе наладзіць, "каб духоўныя служыцелі і вернікі, беручы ў ёй удзел адпаведна свайму становішчу, здабылі больш тых пладоў, дзеля атрымання якіх Хрыстус Пан устанавіў эўхарыстычную ахвяру свайго Цела і сваёй Крыві і даверыў яе Касцёлу <…> як успамін пра сваю муку і змёртвыхпаўстанне" (пар. АУРІ 16–17).

Жэстам і паставам цела ў агульных уводзінах прысвечана некалькі пунктаў (гл. АУРІ 42–44), бо гэта важны момант падчас кожнай цэлебрацыі Імшы. Там сказана, што неабходна браць пад увагу гэтыя прадпісанні і традыцыйную практыку рымскага абраду, якія спрыяюць агульнай духоўнай карысці Божага народа больш, чым задавальненню прыватных схільнасцяў і жаданняў.

Варта звярнуць увагу на тое, што "аднолькавая пастава цела, якая павінна захоўвацца ўсімі ўдзельнікамі, – гэта знак еднасці чальцоў хрысціянскай супольнасці, сабраных на святую Літургію, бо яна выяўляе і падтрымлівае думкі і пачуцці ўдзельнікаў.

<…> Для дасягнення аднастайнасці ў жэстах і паставах цела падчас адной і той жа цэлебрацыі вернікі павінны слухаць настаўленняў, якія даюць дыякан, свецкі прыслугоўвальнік ці святар згодна з нормамі, устаноўленымі ў Імшале" (пар. АУРІ 42–43).

Што ж нам гаворыць Імшал адносна жэстаў падчас малітвы "Ойча наш"? "Пасля эўхарыстычнай малітвы святар, звёўшы рукі, гаворыць заклік да малітвы Панскай. Гэтую малітву, развёўшы рукі, ён прамаўляе разам з народам" (АУРІ 152).

Прадпісанне разводзіць рукі падчас малітвы "Ойча наш", як, зрэшты, і іншых малітваў падчас святой Імшы, датычыцца толькі святара, які яе цэлебруе.

Згодна з традыцыйнай практыкай рымскага абраду вернікі не паўтараюць жэстаў святара, а моляцца, склаўшы рукі ў агульнапрынятым малітоўным жэсце. Такую самую паставу цела захоўваюць дыяканы і іншыя прыслугоўвальнікі.

Нідзе не сказана, што яны павінны маліцца з разведзенымі рукамі, як кажуць, "у жэсце Аранты": ні падчас малітвы "Ойча наш", ані падчас іншых імшальных малітваў.

Вядома, што ў некаторых малітоўных групах і рухах існуе практыка маліцца з разведзенымі ці ўзнятымі ўгору рукамі або таксама трымаючыся за рукі. Такім чынам вернікі могуць маліцца і ў сябе дома, калі ім гэта больш адпавядае. Аднак падчас святой Імшы ў касцёле няма месца для "самадзейнасці". Мы ўсе ўтвараем у Хрысце адно цела, і нашыя жэсты падчас Эўхарыстыі павінны гэта выяўляць. Пры нагодзе нагадваю таксама пра нарматыўны характар зацверджаных літургічных тэкстаў: іх таксама ніхто не мае права змяняць паводле свайго ўпадабання.

Таму як біскуп заклікаю ўсіх вернікаў да захавання еднасці падчас літургіі, у тым ліку ў літургічных тэкстах, жэстах і паставах цела, каб не было паміж намі падзелаў.

Пра гэта асабліва актуальна нагадаць цяпер, напярэдадні тыдня малітваў за адзінства хрысціянаў, – зазначыў арцыбіскуп.

*Catholic.by*



## Віншуем!

*Паважаны **ксёндз Вячаслаў Адамовіч**! Віншуем Вас са святам Божага Нараджэння! Няхай Вялікі Бог адорыць Вас усімі патрэбнымі ласкамі, а Маленькае Дзіцятка прынясе Вам шчасце, радасць, моцнае здароўе, каб Вы доўгія гады неслі святло Праўды!*

*Мы Вас любім і заўсёды чакаем!*

***Вернікі капліц у Забалоцці і Дзедзіне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч**! З Нараджэннем Пана! Няхай Маленькае Дзіцятка адорыць Вас шчодрымі ласкамі, а Маці Божая ахіне сваім шалем!*

*А мы заўсёды чакаем Вас у сваіх касцёлах!*

***Удзельнікі АДДЧ з касцёлаў у Ідолце, Павяцці, Мёрах***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Вячаслаў Пялінак**! Са святам Божага Нараджэння!*

*Няхай Пан Бог адорыць Вас сваім блаславеннем, шчодрымі ласкамі, а Маці Божая – апекай! Анёл-ахоўнік няхай сцеражэ Вас на ўсіх шляхах!*

***Вернікі капліц у Забалоцці і Дзедзіне***

## Шаноўны ксёндз Мікалай!



*Віншуем Вас з імянінамі, якія Вы адзначылі 6 снежня, з Божым Нараджэннем і Новым годам!*

*Моцнага Вам здароўя, апекі Маці Божай, добразычлівых парафіян, дапамогі Нябеснага Заступніка ў працы на духоўнай ніве!*

*Нізкі паклон Вашым бацькам за сына-святара!*

***Парафіяне касцёла Святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Хвала Хрысту!

*28 студзеня адзначае свой дзень нараджэння, 40-гадовы юбілей, пробашч Шаркаўшчынскай парафіі **ксёндз Максім Бачарнікаў**.*

*Шаноўны ксёндз Максім! Віншуем Вас з Днём нараджэння! Шчыра дзякуем Вам за душэўную дабрыню і адкрытасць. У Вас на ўсё хапае часу, Вы так шмат паспяваеце зрабіць, усяго самога аддаяце служэнню нашай парафіі. Мы часта звяртаемся да Вас са сваімі праблемамі, і Вы заўсёды выслухаеце і дапаможаце добрай парадай.*

*Паважаны ксёндз Максім! Няхай Бог Айцец дае Вам сілы, Святы Дух адорвае мудрасцю і супакоем, Пан Езус з'яўляецца прыкладам на шляху служэння Богу, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі заўсёды аберагае Вас!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярпення і мудрасці, добрых і спагадлівых парафіянаў. Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваёй малітве!*

***З павагай, парафіяне г.п. Шаркаўшчына***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага **ксяндза Вячаслава Барка** з Днём нараджэння, які ён адсвяткаваў 6 студзеня.*

*Жадаем ксяндзу Вячаславу поспехаў у працы, моцнага здароўя і каб Бог Айцец, Езус Хрыстус, Маці нябесная Марыя, усе анёлачкі і ўсе святыя кожную хвіліначку былі побач і яму дапамагалі!*

***Ад імя ўсіх парафіян касцёла Святога Язафата Кунцэвіча ў Расонах, Часлава Васільева***

## Дасылаем шчырыя віншаванні!

*Дасылаем шчырыя віншаванні нашаму любаму **пробашчу Генадзю Ляўкову** з імянінамі, якія ён адзначыў 19 студзеня.*

*Дзякуем Вам, шаноўны ксёндз Генадзь, за шчырую працу, за добразычлівасць, за прыветлівую ўсмешку і за шчырасць сэрца!*

*Зычым Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых і добрых людзей на Вашым шляху, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх касцельных справах, добрага здароўя, радасных хвілін у жыцці!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сына-святара і зычым ім здароўя, Божага блаславення і патрэбных ласкаў!*

***Вернікі парафіі Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Дрысвятах (Браслаўскі раён)***

# Хочацца выказаць шчырую падзяку

## Хвала Хрысту!



Мінуў Адвэнт, адбыліся ў касцёлах рэкалекцыі, падчас якіх вернікі мелі магчымасць паспавядацца і атрымаць прабачэнне грахоў перад Богам, а галоўнае – атрымаць духоўнае ўзрастанне ў веры.

З гэтай нагоды хочацца выказаць шчырую падзяку **айцу Пятру**, які праводзіў заняткі, а таксама нашым святарам – **ксяндзу Андрэю** і **ксяндзу Валерыю** – за іх плённую працу па набліжэнні людзей да Бога, за духоўнае выхаванне нашых дзяцей і моладзі. Як прыемна было бачыць вялікую працэсію дзетак з запаленымі свечкамі ў руках, якія не паленаваліся рана ўстаць і а 6:45 быць тры разы на тыдзень на Ратратнай Імшы ў касцёле! Вялікая заслуга ў тым бацькоў, бабуль і дзядуляў. Думаецца, дзеці стануць сапраўднымі вернікамі і грамадзянамі нашай краіны, добрымі людзьмі, бо Касцёл вучыць як любові да Бога, так і прыхільнасці і павагі да бліжняга. Хочацца спадзявацца, што гэтыя дзеткі будуць выконваць у сваім жыцці наказ Хрыста: "Любі іншага, як сябе самога!"

На вялікі жаль, не ўсе выконваюць гэты наказ Пана, парушаюць яго. Многія нават атрымліваюць нейкае задавальненне, калі зробяць іншаму непрыемнасць, абразяць дрэнным словам ці ўчынкам. Безумоўна, вельмі цяжка прабачыць ці тым больш любіць такога чалавека, але ж гэта патрэбна кожнаму, бо ўсе мы не святыя на гэтай зямлі.

Так, цяжка бачыць Езуса ў іншым чалавеку! Міласэрнасць і любоў – на гэтым трымаецца вучэнне Хрыста. Дык давайце ж будзем больш цярпімымі ў адносінах адна да аднаго і больш стараннымі ў захоўванні Божых наказаў! Гэта і будзе нашай дарогай да збаўлення.

***З павагай, Аліцыя Трафімовіч (парафія Езуса Міласэрнага, г. Паставы)***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – В; 4 – А; 5 – В; 6 – В; 7 – Б; 8 – А; 9 – Б; 10 – В

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*З вялікай радасцю, павагай, любоўю і гонарам віншуем **Арцыбіскупа Каталіцкага Касцёла ў Беларусі Тадэвуша Кандрусевіча** з 30-годдзем біскупскага служэння! Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і святарскага паклікання, за шматгранную святарскую дзейнасць на працягу гэтых гадоў! Ваша святарскае Божае Слова заўсёды захапляла і ўзмацняла нас мудрасцю, велічнасцю і прастатой! Мы вельмі ўдзячныя Вам, паважаны Арцыбіскуп, за мудрасць і цярплівасць у выкананні нялёгкай працы на Божай ніве, за цудоўную ўсмешку, за дабрыню і чалавечнасць! Няхай Ваша нястомная святарская энергія спадарожнічае Вам яшчэ шмат часу!*

*Будзьце здаровыя, і прыкладам свайго святога жыцця і служэння змяняйце лёсы людзей, робячы іх добрымі, міласэрнымі, прагнымі да Праўды жыцця і яе ўдасканалення! Шчыра жадаем Вам актыўнага святарскага даўгалецця, аптымізму, міру, радасці, добрага здароўя і шмат творчых сіл!*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у кожную хвіліну Вашага святога святарскага жыцця, а Маці Божая хай заўсёды падтрымлівае і абараняе! Са светлымі і добрымі святамі Божага Нараджэння і Новым 2020 годам!*

***З павагай і вялікай удзячнасцю, вернікі Каталіцкага Касцёла з Віцебскай дыяцэзіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*31 студзеня наш **святар Юрый Жаўнаровіч** будзе адзначаць Дзень нараджэння.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, паважаны ксёндз Юрый, моцнага здароўя, душэўнага спакою, аптымізму, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, каб на Вашым шляху сустрэлася шмат адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў! Дзякуем Вам за ахвярную працу, за шчырасць і адданасць!*

***З павагай, вернікі касцёла ў Ахрэмаўцах (Браслаўскі раён)***

## Віншуем!

*31 студзеня – Дзень нараджэння нашага шаноўнага **ксяндза Юрыя Жаўняровіча**. З Днём нараджэння, ксёндз Юрый!*

*Хай ад Бога Айца Вам здароўе даецца,*
*І, як Сэрца Езуса, праменіцца Вашае сэрца!*
*Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і сіла,*
*А ад Божае Маці – разважнасць, ласкавасць, цярплівасць.*
*Радасць быцця мець у кожным імгненні, шчасця, здароўя!*
*З Днём нараджэння!*

***Супрацоўнікі Ахрэмавіцкага сельскага савета***

## Хвала Хрысту!

*Дасылаем свае шчырыя віншаванні **ксяндзу Юрыю Жаўняровічу** з нагоды Дня нараджэння (31 студзеня).*

***Няхай Вас адорвае Бог міласэрны***
***Ласкай, апекай, верай без меры!***
***Няхай будуць блізкія Вашы здаровы,***
***Ім мы жадаем ад Бога аховы!***

***Няхай Вам шчаслівая зорачка свеціць,***
***Няхай паважаюць дарослыя, дзеці!***
***Няхай жа здзяйсняюцца мары, жаданні!***
***Мы шчыра складаем свае віншаванні!***

***Хай плённаю будзе Ваша дарога!***
***Моцы і сілы ад Духа Святога!***
***Радасць быцця мець у кожным імгненні,***
***Шчасця, здароўя! З Днём нараджэння!***

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Замошскай парафіі Маці Божай Анельскай***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шматлікія шчырыя віншаванні і пажаданні дабра і шчасця, спалучаныя з нашай штодзённай малітвай, дасылаем мы, парафіяне касцёла Перамянення Пана ў г.Чашнікі, першаму біскупу нашай Віцебскай дыяцэзіі Уладзіславу Бліну, біскупу Алегу Буткевічу, усім святарам і кансэкраваным асобам нашай дыяцэзіі з нагоды доўгачаканых цудоўных святаў Божага Нараджэння і Новага 2020 года!

Шчыра вітаючы кожнага з вас, дзякуем і сардэчна жадаем далейшага паспяховага святарскага служэння на хвалу Богу і ўсяго Каталіцкага Касцёла Беларусі!

Асабліва ўдзячныя цёплыя словы прывітання і віншавання мы скіроўваем усім ксяндзам, якія прыязджалі да нас у Чашніцкую парафію: Генадзю Дабруку, Яцэку Маркоўскаму, Мечыславу Янчышыну, Славаміру Самковічу, Юрыю Жаўняровічу, Анджэю Бульчаку, Аляксандру Барану і нашаму цяперашняму ксяндзупробашчу Мікалаю Ліпскаму! Прыміце нашы шчырыя падзякі і віншаванні!

Больш за ўсіх, на працягу шасці гадоў, жыў у Чашніках і выконваў святарскую паслугу кс. Анджэй Бульчак. Адкрыць прыгажосць каталіцкай веры, сагрэць сэрцы і душы людзей здолеў кс. Анджэй за гэты непрацяглы час. Таксама, нягледзячы на вялікія цяжкасці, ён пабудаваў наш чашніцкі касцёл, дзе мы маем магчымасць узносіць нашы малітвы да Госпада, просячы Яго пра здароўе і заступніцтва. Ад шчырага сэрца дзякуем Вам, шаноўны кс. Анджэй, за Вашу нястомную працу па адраджэнні каталіцкай веры ў душах і сэрцах чашнічан, за бязмежную любоў да людзей, да дзетак, за ласку і дабрыню! Няхай тая радасць, якая прамяніцца у Вашай асобе, у Вашых словах, вачах і ўсмешцы, напаўняе таксама тых, да каго пажадае пасляць свайго сапраўднага святара Езус Хрыстус!

Праз нашы шчырыя малітвы мы просім Пана Бога, каб Ён узнагародзіў моцным здароўем, духоўнай мудрасцю і сілай, нязгасным запалам у выкананні святарскай працы адказнага, працавітага, ветлівага і вельмі сціплага кс. Мікалая Ліпскага, нашага цяперашняга пробашча! З годнасцю служачы на Божай ніве, кс. Мікалай клапоціцца пра дaручаны яму касцёл у Чашніках і стараецца зрабіць жыццё парафіян лепшым, духоўна разнастайным і пазнавальным. Колькі цудоўных пілігрымак па святых месцах Беларусі і за мяжой арганізаваў і правёў кс. Мікалай! Колькі цудоўных беларускіх артыстаў, музыкаў давёз да нас! Надоўга захаваюцца ў сэрцах людзей яскравыя ўражанні і радасныя пачуцці!

Услаўляць Бога, любіць сваю радзіму не толькі словамі Святога Евангелля, але і песнямі, і танцамі вучыць нас кс. Мікалай. Талент і чыстыя пранікнёныя словы шматлікіх артыстаў, музыкантаў нікога не прымусілі сумаваць на каталіцкіх святах: музыка і спевы, якія неслі ў сабе Добрую Навіну, узнімалі духоўны стан чашнічан, узвышалі іх пачуцці. Мы выказваем сардэчную ўдзячнасць за гэтую Божую радасць сустрэчы з сапраўднай прыгажосцю!

Непазнавальна змянілася і тэрыторыя вакол нашага касцёла, папрыгажэла і расквітнела разнастайнымі кветкамі. Вялікую дапамогу ў штодзённай святарскай працы кс. Мікалая заўсёды аказваюць яго бацькі. Маючы адзінага сына і аддаўшы яго на служэнне Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу, бацькі кс. Мікалая на працягу ўсяго свайго жыцця будуць ганарыцца ім, яго Божымі справамі і святарскай дзейнасцю! Шчыра вітаем бацькоў кс. Мікалая і дзякуем ім за добрую і патрэбную дапамогу на карысць нашага касцёла!

З вялікай павагай, пашанай і любоўю мы звяртаемся да ўсіх бацькоў ксяндзоў, клерыкаў, сясцёр, кансэкраваных асобаў з удзячнымі словамі, з віншаваннямі з нагоды святаў Божага Нараджэння і Новага года! Хай заўсёды спадарожнічаюць вам і вашым дзецям дабро, любоў і павага ўдзячных вернікаў Каталіцкага Касцёла!

Жадаем усім вам радаснага жыцця, прасякнутага духоўнай творчасцю, любоўю, міласэрнасцю і стваральнай працай!

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю да ўсіх вас, парафіяне касцёла Перамянення Пана (г. Чашнікі)***



## Віншуем біскупа Алега Буткевіча з гадавінай біскупскай сакры!

Шэсць гадоў таму, 18 студзеня 2014 года, Алег Буткевіч у Віцебскай катэдры прыняў біскупскае пасвячэнне з рук Апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдыё Гуджэроці.

Ваша Эксцэленцыя! Паважаны біскуп Алег!

Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" разам з чытачамі і карыстальнікамі партала Catholicnews.by шчыра віншуе Вас з гадавінай біскупскага пасвячэння!

Мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця, за Вашу цудоўную ўсмешку, за адкрытасць, за парады і дабрыню, за навучанне любіць Бога і бліжняга.

Няхай Хрыстос, якому Вы давериліся, блаславіць Вас на далейшую паслугу і заўсёды атуляе сваёй апекай, Маці Божая Браслаўская хай клапоціцца пра кожны дзень Вашага жыцця! Няхай нястомная Ваша праца на Панскай ніве дасць прыгожы плён, а самаахвярнасць, з якой Вы выконваеце сваю паслугу, будзе ўзорам для пераймання і для шматлікіх паклікання!

Сёння мы асаблівым чынам дзякуем Богу і праслаўляем Яго за Ваша пакліканне, годнае спаўненне Божай волі і служэнне ў нашай Віцебскай дыяцэзіі. Няхай заўсёдным натхненнем будуць вочы людзей, якія праз Вашае служэнне пазналі Бога ў сваім жыцці!




# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Сьюзан Форвард. "Токсичные родители" Трудная, но крайне полезная книга…

**О данной книге я услышала на одних духовных упражнениях для девушек. Прочесть её мне порекомендовала монахиня, практикующий психотерапевт. Исходя из названия книги, для себя я отметила, что она не является для меня обязательной к прочтению. Лишь из любопытства и интереса к лучшему пониманию других людей я взялась за чтение "Токсичных родителей". Прочитав и проработав многие моменты из книги на себе, могу утверждать, что она будет полезна каждому. Итак, о чём она?**



Эта книга об отношениях. О формировании психического здоровья личности, о тех самых "токсичных родителях" и их поведении, которое имеет огромное влияние на жизнь их ребёнка в дальнейшем. В первую очередь "Токсичные родители" будут полезны к прочтению тем людям, которые уже давно вышли из детского возраста, но постоянно испытывают неуверенность в себе и сомневаются в своих способностях и качествах. Такие люди часто руководствуются утверждениями: "У меня ничего не получится, я никогда ничего не добьюсь", "любовь нужно заслужить", "я никому не могу доверять" и т.д.…Скорее всего такой человек вырос в семье с токсичными родителями.



Автор книги Сьюзан Форвард

Безусловно, книга не является терапией в полном смысле этого слова, но она поможет в понимании себя, истории своего детства, возможно, вскроет болезненные раны и укажет на проблему. Автор не пытается вас заставить возненавидеть своих родителей или вершить запоздалый суд, скорее наоборот: честный взгляд на своё прошлое и настоящее ведёт к глубокому анализу и пониманию происходившего и происходящего. А следовательно, к сочувствию и прощению: *"Вы не ответственны за то, что сделали с вами, когда вы были беззащитным ребёнком. Вы ответственны за то, что будете делать сейчас для того, чтобы перезагрузить вашу жизнь"*.

Автор книги Сьюзан Форвард – действующий психотерапевт – делится своим многолетним опытом работы с пациентами, которые в детстве подвергались физическому или психологическому насилию. В её книге рассказаны реальные истории пациентов (конечно, все имена изменены), тем самым автор как бы иллюстрирует каждую отдельную проблему, подкрепляя её реальной историей из жизни своих пациентов.

Книга "Токсичные родители" разделена на две части. В первой части Сьюзан Форвард предлагает нам посмотреть на свою детскую ситуацию глазами взрослого человека и понять, почему это происходило и кто за всё это несёт ответственность. Во второй части книги автор даёт конкретные советы, упражнения и действия, которые помогут проработать свои больные места. Несмотря на это, автор предупреждает, что в тяжёлых случаях этого может оказаться недостаточно, и тогда следует обратиться за помощью к специалисту. В любом случае, первый шаг к исцелению может быть заложен именно в этой книге. Сама книга написана простым языком, и, если в ней встречаются специфические психологические термины, автор их охотно поясняет.

Думаю, что данная книга станет добрым помощником не только взрослым израненным детям, но и всем родителям. Для того, чтобы получить здоровую личность, стоит прекратить участвовать в "эстафете поколений" и перестать транслировать вредоносные модели поведения, полученные нами в детстве, на своих детей.

Ниже приведён список вопросов, которые помогут вам понять, стоит ли именно вам читать эту книгу. Если вы ответили на треть этих вопросов утвердительно, пожалуйста, прочтите!

***Виктория Колзун***




| I. ВАШИ ОТНОШЕНИЯ С РОДИТЕЛЯМИ, КОГДА ВЫ БЫЛИ РЕБЁНКОМ: | II. ВАША ВЗРОСЛАЯ ЖИЗНЬ: | III. ВАШИ ОТНОШЕНИЯ С РОДИТЕЛЯМИ ВО ВЗРОСЛОЙ ЖИЗНИ: |
|---|---|---|
| 1. Ваши родители говорили Вам, что Вы плохой/никчёмный? Обращались к Вам в оскорбительной форме? Постоянно критиковали?<br>2. Ваши родители прибегали к физическим наказаниям во имя дисциплины? Били ли Вас ремнём или другими предметами?<br>3. Ваши родители пили/принимали наркотики? Вы чувствовали из-за этого растерянность, испуг, боль, стыд?<br>4. Были ли Ваши родители в тяжёлой депрессии или эмоционально недоступными из-за своих собственных эмоциональных проблем, психического или физического заболевания?<br>5. Вам приходилось заботиться в детстве о Ваших родителях, так как у них было много проблем?<br>6. Вам сделали что-то, что должно было храниться в тайне? Ваши родители злоупотребили Вами сексуально в какой-либо форме?<br>7. Вы боялись Ваших родителей большую часть времени?<br>8. Когда Вы злились на Ваших родителей, Вам было страшно, что они это заметят? | 1. Думаете ли Вы, что Вы состоите в деструктивных отношениях или в отношениях с абьюзом?<br>2. Думаете ли Вы, что при слишком большой эмоциональной близости с кем-либо этот человек в конце концов причинит Вам страдание или бросит Вас?<br>3. Вы ждёте от людей худшего? И в целом от жизни?<br>4. Вам трудно определить, кто Вы, что чувствуете и чего хотите?<br>5. Вы боитесь, что если люди узнают Вас таким, каким Вы есть, они перестанут любить Вас?<br>6. Если Вы добиваетесь успеха, чувствуете ли Вы тревогу и боязнь того, что кто-то узнает, что Вы не более, чем мошенник/мошенница?<br>7. Вы обижаетесь или Вам становится грустно без видимой причины?<br>8. Вы перфекционист (ка)?<br>9. Вам трудно расслабиться или развлечься?<br>10. Несмотря на Ваши старания, чтобы это было не так, видите ли Вы сами себя "копией родителей"? | 1. Ваши родители продолжают обращаться с Вами, как с ребёнком?<br>2. Вы принимаете важные решения, базируясь на возможном согласии/несогласии Ваших родителей?<br>3. Когда Вы проводите или планируете провести время с Вашими родителями, возникают ли у Вас эмоциональные и/или физические реакции?<br>4. Вам страшно поссориться с Вашими родителями?<br>5. Ваши родители манипулируют Вами с помощью угроз или обвинений?<br>6. Ваши родители манипулируют Вами с помощью денег?<br>7. Вы считаете, что несёте ответственность за то, как чувствуют себя Ваши родители? Если они несчастны, чувствуете ли Вы, что это Ваша вина? Считаете ли Вы, что Вы должны сделать так, чтобы они почувствовали себя лучше?<br>8. Кажется ли Вам, что как бы Вы ни старались, то, что Вы делаете ради Ваших родителей, всегда недостаточно?<br>9. Думаете ли Вы, что когда-нибудь, неизвестно как, но Ваши родители станут лучше? |

***P.S.** В редакции "Каталіцкага Весніка" не имеется в наличии книг из рубрики "Что почитать". Советуем их искать в интернет-магазинах.*

*Данную книгу вы также можете встретить в другой, более поздней редакции под названием "Вредные родители".*

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

Не так даўно мы вывучылі разам з "Пазнавайкай» 10 Божых прыказанняў, якія Бог праз Майсея перадаў нам. Давай праверым, ці добра ты ведаеш, а таксама разумееш Божыя прыказанні.

## Заданне 1.

Насупраць кожнага радка дапішы нумар прыказання, пра якое тут ідзе гаворка:

- [ ] *Не бяры нічога, што не тваё, але належыць іншаму.
- [ ] *Не любі нікога і нічога больш чым свайго Бога. Не праслаўляй нікога, акрамя Бога.
- [ ] *Шануй маму і тату. Бог благаславіць цябе за любоў і павагу да іх.
- [ ] *Маліся за сем'і і клапаціся пра добрыя адносіны з іншымі людзьмі.
- [ ] *Памятай, што ёсць дзень у тыдні, які цалкам прыналежыць Госпаду.
- [ ] *Ніколі не зайздросці іншым у тым, што яны маюць. Не пажадай нічога, што не тваё.
- [ ] *Памятай, што імя Бога можна вымаўляць толькі з вялікай пашанай. Не выкарыстоўвай імя Бога дарэмна.
- [ ] *Не падманвай і не рабі крыўды свайму бліжняму.
- [ ] *Пазбягай распусных думак. Муж і жонка павінны быць верныя адно аднаму.
- [ ] *Шануй жыццё іншага чалавека, а таксама сваё.

## Заданне 2.

Пасля таго, як Майсей вярнуўся з Божымі прыказаннямі, габрэі вырашылі пабудаваць Скінію, месца, у якім пастаянна прабываў Бог. Аб тым, як гэта адбывалася, прачытай у кнізе Зыходу 25-27.

Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.





## Заданне 3.

Аб тым, як выглядаў каўчэг запавету, даведаешся, калі правільна злучыш па кропках. Размалюй.



## Заданне 4.

Выканаўшы другое заданне, ты ўжо ведаеш, як выглядала Скінія, і што ў ёй змяшчалася. Знайдзі тыя прадметы, якіх не было ў Скініі.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Агульнабеларуская пілігрымка да 100-годдзя з дня нараджэння святога Яна Паўла II адбудзецца ў маі

**5 студзеня на 76-м надзвычайным пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі было прынята рашэнне правесці агульнабеларускую пілігрымку з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння святога Яна Паўла II.**

Арганізацыя пілігрымкі ў Рым шляхам святога Яна Паўла II на святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Вялікага Папы-славяніна даручана суполцы Viam Dei – “Божым шляхам”.

*Пілігрымка пройдзе з 13 па 22 мая пад дэвізам 2020 пастырскага года ў Касцёле ў Беларусі: “Адчыніце дзверы Хрысту”.*

**Увага!** Запіс на пілігрымку працягваецца **да 31 сакавіка.**

Пілігрымка адбудзецца па маршруце:

**Мінск – Чэнстахова – Вадавіцы – Кракаў – Вена – Рым – Венецыя – Падуя – Брно – Мінск.**

З малітвай і пашанай пілігрымы наведаюць месцы, звязаныя з жыццём і служэннем Караля Юзэфа Вайтылы – святога Яна Паўла II: Вадавіцы, дзе ён нарадзіўся; Кракаў, дзе ён вучыўся, а пазней быў біскупам і кардыналам; Чэнстахову, дзе ён шмат маліўся.

Мэтаю пілігрымкі стане Вечны горад на сямі пагорках – Рым. На плошчы Святога Пятра ў Ватыкане пілігрымы возьмуць удзел ва ўрачыстасцях з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння святога Яна Паўла II: святой Імшы і малітве “Анёл Панскі” з Папам Францішкам. Пасля гэтага ў адным з касцёлаў Рыма Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч узначаліць цэлебрацыю святой Імшы для ўдзельнікаў агульнабеларускай пілігрымкі з малітвай за Беларусь.

Па дарозе дадому пілігрымы наведаюць Венецыю, каб памаліцца ў катэдры Святога Марка, а таксама Падую, каб ушанаваць вялікага Святога – Антонія Падуанскага.

## Папярэдняя праграма пілігрымкі

**13 мая, серада**

**19.00** – выезд з Мінска (з кожнага абласнога цэнтра) на аўтобусах.

**14 мая, чацвер**

Чэнстахова – святая Імша; Крыжовы шлях; малітва перад абразом Маці Божай Чэнстахоўскай.

Вадавіцы – месца нараджэння св. Яна Паўла II.

Кракаў – Ягелонскі ўніверсітэт. Начлег.

**15 мая, пятніца**

Вена – аглядная экскурсія; катэдра Святога Стэфана: святая Імша. Начлег.

**16 мая, субота**

Пераезд у Рым. Начлег у ваколіцах Рыма.

**17 мая, нядзеля**

10.00 – святая Імша з Папам Францішкам на плошчы Святога Пятра.

12.00 – малітва “Анёл Панскі” з Папам Францішкам на плошчы Святога Пятра.

13.00 – святая Імша за Беларусь з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам.

**18 мая, панядзелак**

Экскурсія па Рыме, вольны час.

Начны пераезд у Венецыю.

**19 мая, аўторак**

Венецыя – катэдра Святога Марка: святая Імша; экскурсія па Венецыі.

Падуя – экскурсія; базыліка Святой Юстыны: малітва. Начлег.



**20 мая, серада**

Падуя – базыліка Святога Антонія Падуанскага: святая Імша.

Пераезд у Брно. Начлег.

**21 мая, чацвер**

Ад’езд у Мінск з Брно, транзіт па тэрыторыі Чэхіі, Польшчы.

Вяртанне ў Мінск позна вечарам 21 мая або ўначы 22 мая.

**Унёсак пілігрыма:** 400 еўра ў эквіваленце (для святароў і кансэкраваных асобаў: 200 еўра ў эквіваленце).

Дадаткова аплачваецца: Шэнгенская віза, страхоўка, праезд па Рыме на метро, паром у Венецыю.

**Запіс на пілігрымку:**
па тэлефоне:
+375 29 199 88 23
па Viber, Telegram
на +375 29 199 88 23

анлайн на сайце:
roch.by/viamdei
на старонцы ў Instagram: viamdei_by

У сакрыстыі касцёла Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) на Залатой Горцы ў Мінску

*(пр. Незалежнасці, 44-А).*

***“Адчыніце дзверы Хрысту”***

*Catholic.by*

## Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакраментальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб’яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”
**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 347
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2800 экз.
Аб’ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.01.2020 г. у 10.39
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь